# БЯРОЗКА



СТУДЗЕНЬ ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ 1946 г. 1

**БЯРОЗКА**

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!*

№ 1

студзень 1946 г.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



*Помніце, любіце, вывучайце Ільіча, нашага настаўніка, нашага правадыра.*

*Змагайцеся і перамагайце ворагаў, унутраных і знешніх, — па Ільічу.*

*Будуйце новае жыццё, новы быт, новую культуру—па Ільічу.*

*Ніколі не адмаўляйцеся ад малога ў рабоце, бо з малога будуецца вялікае,—у гэтым адзін з важных заветаў Ільіча.*

**І. Сталін.**





*Владзімір Ільіч Ленін у сваім кабінеце ў Крэмлі (1918 г.).*



# ПАЕЗДКА Ў КАШЫНА

*А. КОНАНАЎ* *Мал. А. Давыдавай*

У 1920 годзе жыхары вёскі Кашына пабудавалі ў сябе электрычную станцыю.

Тады гэта была вельмі складаная справа: не было самых патрэбных тавараў: цвік і той стаў у вёсцы рэдкім.

І вось у такі час кашынскія сяляне самі, сваімі сіламі, па свайму ўласнаму жаданню пачалі будаваць электрастанцыю. Дасталі з вялікай цяжкасцю некалькі мяшкоў тэлефоннага провада. Ён быў вельмі тоўсты, суканы з дроту. Яго разаслалі па зямлі і сталі раскручваць абцугамі і проста голымі рукамі. Раскруцілі—вышла многа дроту.

З лесу прывезлі бярвенні, распілавалі на слупы, гладка выгаблявалі.

Цяпер трэба было здабываць электрычную машыну — дынама.

Калі ў тыя часы нялёгка было купіць цвік, то як-жа было дастаць дынамамашыну?

Паехалі кашынскія сяляне ў Маскву. І куды-б яны ні прыходзілі, пачыналі гутарку з таго, што вось у Леніна ёсць план—правесці электрычнасць па ўсёй краіне; яны, значыцца, па гэтаму плану і дзейнічаюць.

І хоць не адразу, а дабіліся кашынцы свайго: атрымалі дынамамашыну.

Прывезлі яе ў Кашына, устанавілі ў вялікім свіране.

Паставілі па ўсёй вуліцы слупы, нацягнулі правады, у кожную хату далі па электрычнай лямпачцы.

А калі ўсё было гатова, паслалі ліст да Леніна — запрашалі яго на адкрыццё электрастанцыі.

Ліст паслалі, а не верылася: дзе-ж Леніну прыехаць, няма калі яму...

Усё-такі сталі рыхтавацца. У самай вялікай хаце паставілі доўгі стол, лавы, а ўсё лішняе — куфры, ложкі, — вынеслі вон. Наварылі, напяклі, колькі маглі, пачастунку.

Надышоў дзень адкрыцця электрастанцыі — 14 лістапада.

Сяляне ўжо і не ведалі, ці чакаць Леніна.

І раптам на дарозе паказалася легкавая машына.

Дзеці першыя пабеглі насустрач. Машына спынілася. У ёй сядзелі Владзімір Ільіч і Надзежда Канстанцінаўна.

Владзімір Ільіч спытаў у рэбят:

— Дзе тут у вас электрастанцыя?

Дзеці ўзрадаваліся:

— Падвязі, тады пакажам.

Пасадзіў Ленін дзяцей у машыну, паехалі.

У вялікай хаце спаткалі яго сяляне.

Пачалася гутарка. Ленін расказаў пра перамогу Чырвонай Арміі над белагвардзейцамі, вітаў сялян з гэтай перамогай.

Сталі сяляне расказваць яму пра свае справы.

Ленін слухаў з цікавасцю. Калі расказчык спыняўся, Владзімір Ільіч яго падбадзёрваў:

— Ну, а далей?

У Леніна была выдатная памяць: ён адразу запамінаў, як каго завуць, і потым называў старых сялян па імю і па бацьку: Аляксей Андрэевіч, Васіліса Паўлаўна. Вельмі гэта старым падабалася.

Размова вышла такой цікавай і для Леніна і для сялян, што ніхто і не заўважыў, як хутка дзень прайшоў. Непакоіўся толькі адзін чалавек — фатограф. Ён прыехаў зняць Владзіміра Ільіча разам з сялянамі і цяпер усё думаў з трывогай: хутка вечар, здымак, магчыма, не выйдзе—святла мала.

Нарэшце, ён сказаў:

— Владзімір Ільіч, сяляне хацелі-б зняцца з вамі.

— А... ну, добра, — адказаў Ленін, а сам працягваў гутарку.

Прайшло яшчэ мінут з дзесяць. За акном стала цямнець.

Фатограф сказаў з роспаччу:

— Праз некалькі мінут ужо будзе позна здымаць.

Владзімір Ільіч паглядзеў на яго. Здымацца не хацелася, але Ленін шанаваў чужую працу: фатограф прыехаў з горада, патраціў час.

І Ленін сказаў:

— Ну, ідзіце на двор, рыхтуйцеся. Мы з Надзеждай Канстанцінаўнай зараз выйдзем.

Фатограф пабег з апаратам на вуліцу, стаў устанаўліваць яго. Гора яму было з дзецьмі: наляцелі з усіх бакоў, так і стараюцца ўсесціся перад самым апаратам.

Вышлі з хаты і Владзімір Ільіч з Надзеждай Канстанцінаўнай. Фатограф пасадзіў іх у сярэдзіне, а навакол стаў рассаджваць сялян. Але і тут умяшаліся дзеці: круціліся ля ног, ціскаліся бліжэй да Владзіміра Ільіча. Фатограф раззлаваўся: трэба, каб усе сядзелі ціха, а то здымак будзе папсаваны.

— Вы вунь у тую чорненькую дзірачку глядзіце.

Сталі дзеці глядзець у дзірачку апарата. Фатограф накінуў сабе на галаву доўгую чорную хустку і замёр так.

Ленін яму сказаў:

— Вы мне рэбят не замарозце.

Навакол засмяяліся:

— Нічога, яны ў нас здаровыя, вытрымаюць.

Дзеці зноў заварушыліся: гутарка-ж аб іх зайшла. Тут фатограф не вытрымаў і закрычаў:

— Смірна!

Ленін усміхнуўся ды так з усмешкай і вышаў на фатаграфіі...

Потым на плошчы сабраўся мітынг.

Пасярод плошчы стаяў высокі слуп, на ім вісеў новы электрычны ліхтар; яго яшчэ ні разу не запальвалі. Слуп быў абвіты зялёнымі яловымі галінкамі і чырвонымі істужкамі. Пад ліхтаром стаяў столік.

А наўкола сабраліся сяляне не толькі з вёскі Кашына, але і з іншых сёл і вёсак. Многія прышлі сюды здалёку.

Ленін падышоў да століка і пачаў прамову:

— Ваша вёска Кашына пускае электрычную станцыю. Выдатнейшая справа. Але гэта толькі пачатак. Наша задача ў тым, каб уся наша рэспубліка была заліта электрычным святлом...

Калі Ленін скончыў прамову, струнны аркестр зайграў «Інтэрнацыянал». І ў тую-ж хвіліну манцёр пусціў ток.

На плошчы ўспыхнуў электрычны ліхтар, у хатах разам запаліліся агеньчыкі.



Раней кашынскія сяляне палілі ў сябе маленькія лямпачкі-капцілкі; яны гарэлі ледзь-ледзь, цьмяна, зеленаватым святлом.

А цяпер нехта сказаў, гледзячы на яркае электрычнае святло:

— Вось і запалілася ў нас лямпачка Ільіча...

Стаў Ленін збірацца дадому.

Развітаўся з сялянамі, пайшоў да машыны. Было зусім цёмна, халодны лістападаўскі вецер дзьмуў у твар.

Калі ад'ехалі ўжо далёка, Владзімір Ільіч азірнуўся. Ззаду, сярод цёмных палёў, ярка свяціліся вокны кашынскіх хат.



# ЧАЛАВЕК-СОНЦА

*(Палеская легенда пра Леніна)*

*Антон* БЯЛЕВІЧ

*Мал. В. Ціхановіча*

Вечар зімовы.
Спакой.
Звыклаю цягне рукой
Ніткі бабуля з кудзелі.
Добра Ігнатку ў пасцелі
Слухаць бабульчын расказ:

— На лузе было гэта ў нас.
Вышлі касцы на работу,
На пана касіць не ахвота.
Кашулі спацелі,
Знямелі
Рукі ў касцоў за касьбой.
Бачаць—ідзе лугавой
Сцежкай да іх незнаёмы:
Хто і адкуль—невядома.
— Дзень добры, мужчыны!
— Здароў!..
І ўткнулі ў траву яны косы.
— Парадкам вы ўзнялі стагоў,
Падперлі стагамі нябёсы.

— Стагоў то не мала, браток,
Ды панскі тут кожны куток...
Зірнуў ён мужчынам у твары,
І кажа касцу ён:
— Таварыш,
Дай я прайдуся з касой...

З расой
сцеле раўнютка пракос.
Сталлю навойстраных кос
Звоніць мурожлівы луг.

Нашы касцы тут наўкруг.
Просты ён з імі, як друг,
Кожнаму кажа: — Таварыш...
І смутак развейвае з твараў
Словам праўдзівым такім:
— Вам будзе сена, — не ім,
Не панскае гэта, а ваша:
І поле, і пушча, і паша, —
Ваша!

Дружней трэба быць вам усім, —
І летаў галодных і зім
Не будзе ніколі на свеце:
Над краем над вашым глухім
Яскравае сонца засвеціць...

Цёпла у хаце. Сухой
Пахне кудзеляй, пянькой,
У нераце вочкі дзед ніжа.
Камінак пылае. Смалой
Дрэўка слязіцца, і рыжы
Водсвет кладзецца на стрыжань.
Мыецца лапкаю кот.
Ціха бурчыць калаўрот,
Пузатая шпуля ад пражы,
Расказ свой бабуля ўсё вяжа:

— Да стрэчы, мужчыны!
— Бывай!..
І сцежкай пайшоў ён у гай,
Касцы яму ўслед пазіралі.
І дзе ён ступіў,—як у май
Краскі вясёлыя сталі.

İ красак вясёлых тых пах
Разліўся па сініх лугах,
Панёс яго вецер на пожні,
İ з радасцю ў сумных вачах
На сцежку касец глядзеў кожны.



* * *

— Лета праходзіць, і от —
Цуда убачыў народ:
Ночы не знік яшчэ змрок, —
Глянулі людзі ў той бок,
Луг дзе, ля самага гаю, —
Сонейка свеціць, мігае!

Гэтак талкуюць і так,
Нехта палез на вятрак:
— Сонейка, — кажа, — мігае,
Ціханька ўсходзіць ад гаю...

İ ў летні, у ранішні змрок
Лугам на той аганёк
Жнеі ідуць, плугары:
Бліжэй і бліжэй ён гарыць,
У вочы ім свеціць прамень,
İ з твараў зганяе ён цень,
İ змрок ён развейвае шэры.

— Ён піша, браткі...
Сядзіць ён. Падпёрся рукой.
А лямпа мігае. Спакой.
Ён хмурыць задумліва бровы.
— Той самы?
— Той самы,
Са мной
Страчаўся ў лагу, ля дубровы.
Бародка—маленькім клінком.
Усім ён да рыскі знаём
İ ўсмешка ўсё тая-ж на твары,
Ён вышаў і кажа:
— Таварыш,
Ці помніш—касілі з табой,
З расой,
За ракой?
. . . . . . . . . . . . . .

— Ранкам паглядзіш, ці ў змрок—
Той-жа ўсё, той аганёк
Свеціцца ў вочы, мігае.
Людзям здаецца здалёк,—
Сонейка ўсходзіць ад гаю.
Свеціцца ў лузе шалаш:
Мудры настаўнік там наш
Воч не змыкае штоночы
İ ясным святлом сваім хоча
Край наш лясны асвяціць,
Каб добра было людзям жыць.
İ ходзіць такі яшчэ слух:
Бачаць вяскоўцы—на луг
Сталін прыходзіць і ўдвух
З Леніным дбаюць пра нас,
İ ў позні, і ў ранішні час.
Ленін і Сталін—два сонцы
Разам ідуць па старонцы
İ сеюць цяпло нам усім
Многа і летаў і зім.

Вечар зімовы. Спакой.
Вецер гудзе за сцяной,
Мацае кроквы і латы.
Позняй паўночнай парой
Соладка спіцца Ігнату.



*Алесь ЯКІМОВІЧ*

*Мал. В. Сухаверхава*



# Залатыя рукі

У штаб каманды шпарка ўбегла звязная Галя. Спяшаючыся, яна коратка адрапартавала:

— Таварыш камандзір! Пры абходзе нашай вуліцы мною выяўлены адзін дзядуля. Яму патрэбна дапамога каманды.

Камандзір штаба, русагаловая дзяўчына Зіна з кароткімі заплеценымі касамі, такімі-ж, як і ў звязной, сядзела за сталом. Перад ёю ляжала раскрытая кніга з малюнкамі, па якіх можна было здагадацца, што кніга гэтая была звычайнай школьнай геаграфіяй. Русагаловая дзяўчына ўзняла ўверх свае круглыя блакітныя вочы, паглядзела на звязную, потым моўчкі адсунула падручнік, адчыніла шуфляду і дастала сшытак.

— Прозвішча?—спытала яна, нарыхтаваўшыся пісаць у сшытку.

— Ясюкевіч Іван Пятровіч.

Камандзір Зіна запісала гэтае новае прозвішча ўслед за папярэднім запісам.

— Адрас?

— 27, кватэра 3.

— Добра,—спакойна сказала Зіна, запісаўшы ўсё як след па форме,—а чаму ты думаеш, што яму патрэбна дапамога каманды?

Галя зноў шпарка і ўсхвалявана зашчабятала:

— Ён стары і часта хварэе, у яго нікога з радні няма. Толькі сын адзін, але ён у Чырвонай Арміі служыць. Чэснае піонерскае пад салютам!

— Ясна,—перапыніла яе Зіна.—Каго-ж пашлем шэфамі?

— Мяне, Зіначка!—падхапіла звязная.—Ён нават прасіў, каб я часцей заходзіла. Ён мне ўсё-ўсё расказваў і такі добры-добры дзядулька. Я сказала, што прыду яшчэ прыбіраць яму пакой...

— Згодна!—зноў перапыніла Зіна, адгарнуўшы першую старонку сшытка, дзе былі запісаны ў слупок прозвішчы членаў каманды.—Памочніцай да цябе пойдзе Вера. Ты—старшая. А цяпер—вучыць урокі.

— Слухаю, таварыш камандзір!—усміхнуўшыся, крыкнула Галя і вышла з хаты.

---

У выходны дзень Галя і Вера зранку пайшлі праведаць свайго падшэфнага. Дзядуля Іван Пятровіч ляжаў на канапе, накрыўшыся старым кажушком: апошнія дні яму нездаровілася, і ён стараўся менш хадзіць. Убачыўшы знаёмую дзяўчынку Галю, ён усміхнуўся і сказаў ласкава:

— Калі ласка, міласці прашу.

Галя адрэкамендавала дзядулю сваю сяброўку Веру і расказала, зачым яны цяпер прышлі ўдваіх.

Іван Пятровіч з увагаю слухаў вясёлае звонкае Галіна шчабятанне; цьмяныя вочы яго на маршчыністым твары жвава заміргалі, у горле запяршыла. Адкашляўшыся, ён сказаў:

— Вельмі рад. Дзякую, дзяўчаткі, за ўвагу да старога. Ніколі не чуў такіх ласкавых слоў ад чужых дзяцей...

— А мы не чужыя,—пакрыўдзілася Галя,—мы—цімураўкі!

Дзядуля задумаўся, з цікавасцю разглядаючы дзяўчатак. Дзяўчаткі, як дзяўчаткі, звычайныя: адна, Галя, крышку большая, чарнявая з шустрымі вачыма і сама такая-ж шустрая, другая—яе сяброўка—меншая, круглатварая, з кірпатым носікам. Яна, відаць, спакайнейшая, бо ўсё маўчыць.

— А як гэта разумець—цімураўкі?—запытаўся Іван Пятровіч.

Галя, як умела, растлумачыла, хто такія цімураўцы і цімураўкі, пра іх каманды і работу.

— Ці бачыш!—ківаў галавою Іван Пятровіч.—Дык вы, значыцца, не простыя дзяўчаткі, а цімураўкі з каманды?

— Ага, з каманды,—падцвердзіла Вера і пры гэтым густа пачырванела. — У нас арганізацыя вялікая, на ўвесь горад, — развяла яна рукамі.

Пасля такой гутаркі дзяўчаткі заняліся дзядулевай гаспадаркай. Яны памылі падлогу, перачысцілі пасуду і нават згатавалі смачны абед.

— Ай, малайцы! Залатыя рукі!—шчыра цешыўся з маладых гаспадынь Іван Пятровіч.

Жыў стары ўжо некалькі год адзінокім і ўсё чакаў сына з вайны. Вернецца сын, думаў ён, і адразу палепшае яму. Але вайна скончылася, а сын пакуль не вяртаўся і, чакаючы яго, стары дужа сумаваў. Яшчэ калі здаровы быў — весялей было: хадзіў часамі пасядзець да суседзяў, альбо рабіў сякую-такую плотніцкую работу. Нідзе на службе ён цяпер не быў па старасці год, а жыў з пенсіі.

Дзяўчаткі падружыліся з Іванам Пятровічам, і хутка сталі не толькі памочніцамі яму, але і жаданымі гасцямі.



*Яны памылі падлогу, перачысцілі пасуду...*

І калі, бывала, дзень-другі ніхто не наведваў яго, ён непакоіўся і пільна прыслухоўваўся да кожнага шоргату за дзвярыма.

---

Аднойчы Іван Пятровіч сустрэў дзяўчатак радаснай весткай:

— Ад сына ліст! Хутка прыедзе.

І ён тут-жа дастаў з шуфляды і паказаў сваім юным прыяцелькам акуратна складзены трохвугольнікам ліст.

— Вітаем, Іван Пятровіч!—запляскалі ў далоні Галя і Вера.—Цяпер вы не будзеце адзінокім.

— Але-ж, але-ж, дачушкі-сакатушкі, хоць я і так цяпер з вамі не сірата.

Дзяўчаткі, як звычайна, сталі наводзіць парадак у пакоі і заўважылі, што ў Івана Пятровіча не мытая бялізна.

— Мы памыем,—сказала Галя.

— А ці-ж вы ўмееце?

— Умеем, Іван Пятровіч.

— Добра. А я вам памагу. Вось і кашулю не шкодзіла-б перамыць к сынаваму прыезду...—сказаў ён, паказваючы на сваю зашмальцаваную верхнюю кашулю.—Толькі ці вытрымае яна: лядашчая вельмі...

— Давайце памыем усё, — сказала Галя.

Дзядуля ахвотна зняў кашулю, а сам адзеў кажушок.

— А новай няма ў вас пераменіцца?—запыталася Вера і густа пачырванела, як і ў першы дзень, калі яна сюды прышла.

— Няма, дзеткі. Збіраўся пашыць, ды так і не ўдалося... Нават корту набраў. Толькі дзе іх шыюць, не ведаю. Блізка майстэрні не чуваць, а ў горад хадзіць для мяне далёка.

Дзяўчаткі пераглянуліся між сабою.

— Дайце нам, Іван Пятровіч, корт, мы знойдзем швачку,—прапанавала Галя.

— Ай, як добра было-б!—замітусіўся стары, дастаючы з сундука корт.—Пашукайце, дачушкі-сакатушкі. Вельмі хацелася-б сына ў новай кашулі сустрэць.



*Зіна ўпэўнена рэзала корт нажніцамі.*

— А мерку як зняць?—запыталася Вера.

— Якую там мерку старому? Няхай шые на сорак восьмую мерку і добра будзе,—параіў Іван Пятровіч.

Дзяўчаткам здавалася, што знайсці швачку справа зусім простая. Але мінула два дні, а швачкі яны так і не знайшлі. Тыя, да якіх звярталіся, згаджаліся ўзяць работу толькі на доўгі час. Дзяўчаткі з гэтым не маглі пагадзіцца, ім хацелася хутчэй узрадаваць дзядулю, ды і сын яго можа вось-вось прыехаць.

На трэці дзень з кортам у руках яны прышлі ў штаб каманды.

— Ясна,—сказала камандзір штаба Зіна, выслухаўшы сваіх падначаленых.—Правільна зрабілі.

— А цяпер што рабіць?—нясмела запытала Галя.

— Пашыць.

— Дык ніхто не бярэцца каб хутка...

— Пашыць самім, — растлумачыла Зіна.

Дзяўчаты здзіўлена пераглянуліся.

— Мы не ўмеем... — заенчылі яны.

— Цімураўкі так не адказваюць, — сур'ёзна глянула на іх камандзір Зіна. Яна ачысціла свой стол і тут-жа разгарнула на ім дзедаў корт.

— Сукенкі лялькам шылі?

— Шылі, — засмяяліся дзяўчаткі.

— Дык і кашулю пашыем. Я сабе сама ўсё шыю — і рукамі, і на машыне.

Зіна ўзяла сантыметр і пачала мераць. Дзяўчаткі глядзелі на яе са страхам.

— А калі сапсуем? — не сцярпела Галя.

Але Зіна ўжо знімала мерку і ўпэўнена рэзала корт нажніцамі.

---

На гэты раз дзяўчаткі не ішлі да Івана Пятровіча, а беглі. Пад пахай у Галі шамацеў акуратна загорнуты ў газету пакунак. Ім не цярпелася хутчэй праверыць якасць сваёй сапраўднай работы. Праўда, самі яны не асмеліліся-б рызыкаваць дзедавым кортам, каб не іхні рашучы да ўсяго камандзір Зіна.

Пераступіўшы парог, Галя адразу запытала:

— Не прыехаў яшчэ?

— Не,—кіўнуў галавою Іван Пятровіч, зразумеўшы, аб кім ідзе гаворка.

— Значыцца, паспелі,—узрадавалася Галя і падала дзядулю пакунак.

— Кашуля?—пацікавіўся стары, беручы пакунак.

— Кашуля.

— Вось дык спрыт!—толькі і праказаў ён, не верачы вачам сваім.

— Памерайце, дзядуля.

— Абавязкова,—жвава заварушыўся стары.

І калі Іван Пятровіч пераадзеўся, дзяўчаткі аж заскакалі вакол яго. Ніводнай хібы не кінулася ім у вочы. Кашуля сядзела роўна і гладка, нібы гэта была работа лепшых майстроў гэтае справы. Вядома, можа яно толькі так здавалася ім, але пасля таго, як Іван Пятровіч, глянуўшы ў абшарпанае люстэрка, ускрыкнуў: «Выдатна!» яны былі больш чым упэўнены, што яно сапраўды так і ёсць.

— Колькі-ж хоць за работу ўзялі?— пацікавіўся Іван Пятровіч.—Мне-ж з вамі разлічыцца трэба.

— Нічолькі,—адказала Галя.

— Гм... жартуеце з старога...

— Без жартаў, Іван Пятровіч. Гэта мы ў сваёй камандзе пашылі.

— Самі?—не паверыў дзядуля.

— Але, самі,—пацвердзіла Вера.—Мы і наш камандзір Зіна,—і цяпер яна пачырванела ўжо не ад сарамяжасці, а ад гонару.

— Ну, не казаў я—залатыя рукі! Гэта-ж такі падарунак к сынаваму прыезду. Дзякую, дачушкі-сакатушкі.

Іван Пятровіч, адзеты ў новую картовую кашулю, бадзёра шагаў па пакою, а Галя і Вера з захапленнем цешыліся з сваёй сапраўднай выдатнай работы.



# На радзіме Фелікса Дзяржынскага

*Віталі ВОЛЬСКІ*

На беразе ціхай, але глыбокай рэчкі Усы стаіць на ўзгорку драўляны будынак. З аднаго боку рассцілаецца перад ім шырокі мурожны луг—сенажаць, з другога боку падступае пад самыя вокны лес.

Гэта—фальварак Дзяржынава. Знаходзіцца ён у Івянецкім раёне, Баранавіцкай вобласці. Трыццаць кіламетраў аддзяляюць яго ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі. Мясцовасць вакол глухая, лясістая. Цёмнай сцяной акружаюць прыгожы, утульны дом лясы Налібоцкай пушчы.

Тут нарадзіўся ў 1877 годзе, у сям'і Эдмунда Дзяржынскага, былога настаўніка, сын Фелікс. На працягу дзезяці год выкладаў Эдмунд Дзяржынскі, бацька Фелікса, матэматыку ў гімназіі ў Таганрогу. Там ён захварэў на сухоты. Дактары параілі яму паехаць у вёску, і Эдмунд Дзяржынскі вярнуўся з Таганрога ў фальварак Дзяржынава, дзе ён нарадзіўся і вырас. Нядоўга давялося яму пажыць на радзіме. Эдмунд Дзяржынскі памёр у 1882 годзе, пакінуўшы жонку і восем дзяцей. Феліксу ў той час было няпоўных пяць год. Усе клопаты па выхаванню шматлікай сям'і выпалі на долю маці. Фелікс быў вельмі прывязан да яе.



*Эдмунд і Гелена Дзяржынскія — бацькі Фелікса.*

Гэта быў добры і чулы хлопчык. Усе яго любілі ў сям'і, ды і не толькі ў сям'і. Усе суседзі і знаёмыя з Івянца, Каменя, з вёскі Пятрылавічы любілі вясёлага, жвавага, дружнага і заўсёды ветлага Фелюся,—так звалі яго ў сям'і. Да дзесяці год нікуды не выязджаў ён з бацькоўскага дома. Маленства Фелікса прайшло ў Дзяржынаве. Добра было яму тут пад лагодным і клапатлівым доглядам маці.

Хлопчык любіў наглядаць прыроду. У лясах Налібоцкай пушчы было шмат усякіх звяроў. На кожным кроку сустракаліся тут зайцы, лісіцы, вавёркі. Да вайны 1914 года на двор у Дзяржынава заходзілі часам ласі. Яны мала баяліся людзей.

Трохі сумна было ў Дзяржынаве толькі зімой. Вакол цёмны, маўклівы лес, усюды глыбокі снег, ваўкі,—іх заўсёды было тут многа. Па начах яны часта вылі, сабакі аж заходзіліся ад брэху, хаваліся ў сенцах і на двары, а раніцай можна было бачыць свежыя воўчыя сляды пад вокнамі дома. Зімою нельга было выходзіць за межы двара. Затое летам было тут прывольна.

Летам Фелікс часта хадзіў у суседнюю вёску Пятрылавічы, дзе ў яго было



*Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі.*

Мал. В. Сухаверава.

шмат знаёмых і сяброў. У паветры пахла мёдам. Буйна цвілі канюшына і грэчка. Гулі несціхана пчолы. Разам з вясковымі дзецьмі збіраў ён у зялёным гушчары, пад раскідзістым лісцяным навесам, грыбы і суніцы. У лесе ён ведаў кожную сцежку.

Рэчка Уса з яе ціхай і павольнай плынню была багата на рыбу, а ў цёмнай вадзе шматлікіх заток хавалася процьма ракаў. У трысці, каля берага рэчкі, недалёка ад дома, гняздзіліся дзікія качкі, і малыя, спрытныя качаняты, смешна кульгаючы з боку на бок, слізгалі паміж градак агарода, знікаючы раптоўна ў высокай траве. Час прабягаў непрыкметна.

Калі Фелікс падрос, старэйшая сястра яго, Альдона, вучылася ў Вільні, у жаночай гімназіі. Вяртаючыся на летнія канікулы дамоў, у Дзяржынава, яна вучыла Фелікса чытаць і пісаць, рыхтуючы яго да паступлення ў першы клас гімназіі.

Каля самага дома раслі высокія векавыя хвоі. Пад гэтымі стройнымі смалістымі соснамі любіў ён чытаць кнігі.

Дзесяцігадовым хлапчуком, увосень 1887 года, Фелікс упершыню пакінуў родны дом. З Дзяржынава выехалі на фурманцы да станцыі Радашковічы, а адтуль поездам у Вільню. Там ён паступіў у першую гімназію.

У Вільні, у часе вучобы, Фелікс жыў на кватэры ў сваёй бабулі, а на летнія



*Рэчка Уса ў Дзяржынаве.*



*Фелікс Дзяржынскі 9 год.*

канікулы заўсёды прыязджаў да маці, у Дзяржынава.

У 1896 годзе, калі Фелікс вучыўся ў восьмым класе, маці яго памерла. Вельмі цяжка і глыбока перажываў Фелікс смерць горача любімай маці. У той час ён быў ужо звязан з рэвалюцыйным рухам і вёў прапагандысцкую работу сярод віленскіх рабочых.

У 1897 годзе Фелікс пакінуў гімназію і паехаў у Каўнас. З гэтага часу ён становіцца прафесіянальным рэвалюцыянерам, які навек звязаў свой лёс з лёсам рабочага класа.

Рэвалюцыйная дзейнасць, турмы і высылкі надоўга адарвалі Фелікса Дзяржынскага ад родных месц. Апошні раз ён быў у Дзяржынаве ў 1917 годзе, у сувязі з смерцю брата Станіслава, які жыў у бацькоўскім доме і займаўся сельскай гаспадаркай. Аб смерці брата паведамілі Феліксу Эдмундавічу ў Петраград. Ён прыехаў у Дзяржынава праз станцыю Стоўбцы, прабыў тут тры дні і паехаў зноў у сталіцу, дзе яго, нястомнага рэвалюцыянера, аднаго з выдатных кіраўнікоў Комуністычнай партыі і Кастрычніцкай рэвалюцыі, чакалі вялікія і неадкладныя справы.




*В. ЛІЎШЫЦ*

*Мал. Ф. Круглянскага*

Як было умоўлена, я зайшоў па Косціка ў пяць гадзін раніцы і, каб не пабудзіць Косцікаву маму, ціха пастукаў у трэцяе акно злева. Ля гэтага акна стаяў раскладны ложак, на якім спаў мой малады дружбак.

Хутка мы з ім закрочылі па соннаму гарадку. Косцік нёс вядро, а я—брэдзень.

Сырая сцежка вывела нас да берага, і мы пайшлі паўз Няву, уніз па плыні. Часта прыходзілася нам скакаць праз глыбокія шчыліны старых траншэй, абыходзіць варонкі, напоўненыя масляністай вадой, а адзін раз Косцік упаў... ён шлёпнуўся, здавалася-б, на зусім роўным месцы.

— МПП! — сказаў я Косціку.

— Што?

— МПП. Мала прыкметныя перашкоды. Інакш гэта называецца «спіраль Бруно».

Я падняў з травы і паказаў Косціку маленькі маток тонкага дроту, у якім заблыталіся яго ногі.

— Гэта нікуды не варта, — раскідваць такія цацкі—нездаволена бурчэў Косцік, паціраючы рукой пабітае калена.

— У мірны час, вядома, яны не патрэбны. А вось на вайне гэтыя спіралькі сябе апраўдалі. Адзін раз цэлая рота немцаў кувыркалася на палянцы перад нашымі траншэямі, і ўсё праз гэтыя, як ты назваў, цацкі. У траве іх не відаць. Выцягне немец нагу з такога маточка дроту, ступіць крок, і зноў — носам у зямлю. Пакуль адну нагу выцягвае, другая ўжо заблыталася.

Мы ідзем далей. Косцік уважліва глядзіць сабе пад ногі.

— Дзядзька Сяргей, вам цяжка? Давайце я панясу брэдзень.

— А вось брэдзень, — што такое брэдзень? Простая вяровачная сетка. А раней яна была ў нас на ўзбраенні. Людзі ўжо і танк-амфібію прыдумалі, і «Кацюшу» ў ход пусцілі, а ў гэты самы час побач з імі захавала сваю моц і такая зброя, якая была вядома даўным-даўно:

шабля ў кавалерыста, нож у разведчыка і прыклад вінтоўкі ў пехацінца. Што такое прыклад? Гэта проста дубіна...

— Гэта правільна, — згадзіўся Косцік, — толькі брэдзень ніколі не быў зброяй.

— Ты так думаеш?.. А ці вядома табе, што ў час Рымскай імперыі, калі ў цырках выходзілі на паядынак гладыятары...

— Ой, дзядзька Сяргей, я аб гэтым чытаў, толькі зараз забыўся... Адзін гладыятар ідзе з мечам, а другі на яго з сеткай. Накіне сетку, пацягне—і праціўнік там, як шчупак у брэдні.

— Дык ведай, што сетка і да гэтага часу не страціла на вайне свайго значэння. Па-першае, ёсць маскіровачныя сеткі. Па-другое, ёсць сеткі паветранага загараджэння, а па-трэцяе...

— Па-трэцяе, — я ведаю. Гэта калі



*Косцік нёс вядро, а я—брэдзень.*

перагарадзіць металічнай сеткай уваход у стаянку караблёў. Тады падводная лодка ворага не зможа туды пранікнуць.

— Таксама правільна, толькі я не аб гэтым хацеў сказаць. Я хачу сказаць, што, па-трэцяе, простая вяровачная сетка паслужыла нам аднойчы, амаль як рымскім гладыятарам: мы злавілі ёю фрыца.

— У рукапашным баі?

— Ну, не, не той зараз час. Зараз на ворага з сеткай не пойдзеш, куля ў сетцы не заблытаецца... А здарылася гэта так... Мы трымалі абарону уздоўж ракі Тосна. Яна ўпадае ў Няву недалёка ад Ленінграда. Мы былі на гэтым беразе, а немцы на тым. І толькі маленькі кавалачак зямлі на тым беразе быў у нашых руках. Яго абараняў батальён капітана Грачова. А для таго, каб немцы не спускалі ў Няву плывучыя міны ці іншыя непрыемныя рэчы, мы перагарадзілі рэчку Тосна вяровачнай сеткай. І мы сапраўды час-ад-часу вылаўлівалі гэтыя «падарункі» немцаў. А адзін раз выцягнулі з сеткі тапельца, обер-лейтэнанта. Зусім, як у Пушкіна: «Тата, тата, нашы сеткі прыцягнулі мерцвяка»... Але я табе раскажу не пра ўтопленага немца, а пра жывога... Абыходзіў я ноччу пасты, спусціўся да берага, мне вартавы і дакладвае:

— Таварыш маёр, не інакш, як сом сетку тузае.

— І праўда: калы, на якіх нацягнута сетка, гнуцца, ледзь з зямлі не выскокваюць.

Выклікаў я двух сваіх разведчыкаў і загадаў абследаваць сетку. Скінулі яны вопратку, узялі аўтаматы і ў ваду. А ў гэты час, чую, крокаў за сто ад гэтага месца, уверх па плыні, пачалася моцная перастрэлка. А тут у нас усё спакойна, калі не лічыць, што калы сеткі з зямлі павылятаталі. Я са звязным трымаем сетку рукамі. А яна нацягнулася і нас у ваду цягне...



*Мы распранаемся і лезем у ваду.*

А потым сетка ў нашых руках абвісла. Варочаюцца мае разведчыкі. Вылазяць яны на бераг, як русалкі, але вядуць не царэвіча, а мокрага перапалоханага фрыца...

— Адкуль ён узяўся?

Аказваецца, немцы гэтай ноччу пераправіліся праз Тосна, каб прашчупаць нашу абарону. Гэты фрыц ішоў праз рэчку апошнім. У поцемках ён крыху збочыў, адбіўся ад сваіх і наткнуўся на сетку... МПП... Спачатку ён не разабраў, што гэта сетка, думаў трава. А калі апынуўся на глыбокім месцы і акунуўся з галавой, тут ён ужо здагадаўся, што гэта—сетка, але кінуць яе нельга было — не ўмеў плаваць. І што было сілы, ён трымаўся за сетку, пакуль яго не выцягнулі разведчыкі...

— Лоўка!—кажа Косцік. — Сапраўды МПП... Калі ўжо чалавека можна злавіць у сетку, то што казаць аб рыбе?.. Шкада толькі, што мы ўзялі адно вядро, трэба-б было яшчэ і бітончык узяць з сабой для ўлова. Праўда, дзядзька Сяргей?

Мы распранаемся і лезем у ваду... Бррр... Сцюдзёна... Косцік цягне брэдзень ля берага, дзе мяльчэй. Я, як дарослы, залажу ў глыбіню.

Мы робім чатыры заходы. Зубы ў нас стукаюць, скура пасінела. У брэдні, парача слізкай твані, нічога няма.

— А рыба не такая ўжо і ду-дур-дурная—заўважыў азябшы Косцік,—яна разумней фр-фр-фр-фрыца...

На пяты заход брэдзень нацягваецца, пачаў пружыніць.

— Ёсць! — крычыць Косцік,—дзядзька Сяргей, заходзьце, заходзьце, к берагу...

Ён вылазіць з вады першы і раней за мяне падбягае да матні.

— МПП!—крычыць ён мне.

— Што? Што?..

— Мала-прыкметная перашкода! Вельмі цяжкая карчага!..

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ШАХМАТНЫ І ШАШАЧНЫ ТУРНІР

Пасля чатырохгадовага перапынку зноў аднавіліся шахматныя і шашачныя спаборніцтвы вучняў Беларусі.

10 студзеня закончылася рэспубліканскае спаборніцтва па шахматах і шашках, у якім удзельнічала каля тысячы юных шахматыстаў і шашыстаў Беларусі. У барацьбе за пяршынства па шахматах і шашках удзельнічалі каманды ад Гродненскай, Бабруйскай, Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцей. Першае месца заняла каманда горада Мінска.

Званне юнага чэмпіёна рэспублікі па шахматах заваяваў вучань 2-й школы г. Пінска Сямён Дуброўскі.

Па шашках першае месца заняў вучань 42-й школы г. Мінска Алесь Майскі, другое месца вучань 13-й Гомельскай школы—Бубскі.

Пераможцы турніра атрымалі каштоўныя падарункі і граматы.



*Удзельнікі турніра. Справа —Сямён Дуброўскі.*




Гэта было ў Каліфорніі.

У даліне між гор пасвілася чарада аленяў. Раптам алені занепакоіліся і з трывогай паднялі галовы. Недалёка ад чарады знаходзіліся два вялікія горныя львы (пумы).

Паляўнічыя, якія наглядалі гэта, думалі, што алені зараз-жа разбягуцца. Але гэта азначала-б, што маладыя цялятркі трапяць у лапы львоў.

Гэтага не здарылася. У адну хвіліну з чарады вылучыліся пяць самых дужых аленяў-самцоў. Яны прынялі баявы парадак у форме лацінскай літары V (в). Усе алені-самкі і маладняк схаваліся за баявым парадкам.

Калі баявы строй быў гатоў, алені рушылі на львоў. Львы напужаліся такой нечаканай смеласці, павярнуліся і збеглі ў горы.




Адзін натураліст апавядае: аднойчы ў пачатку зімы я заўважыў каля сажалкі чародку чорных драздоў. Драззды былі ўстрывожаны. Відаць, яны хацелі піць, бо стукалі дзюбкамі ў лёд. Лёд быў тоўсты, і прабіць яго драззды не маглі.

Тады адзін дрозд раптам упаў на лёд. Упаў і ляжыць, прытуліўшыся целам да лёду. Праз хвіліну дрозд устаў, а на яго месца ўпаў другі. Так, па чарзе, усе драззды падалі і сваім целам адагравалі лёд. А калі ў лёдзе ўтварылася ямка, драззды дзюбамі прабілі рэшту лёду, дабраліся да вады і напіліся.




У паляўнічага, які адзін жыў у горах, пачалі знікаць з кладоўкі прадукты. Асабліва часта знікала свіная грудзінка. Паляўнічы ўбіў у зямлю высокую жэрдку і павесіў на яе грудзінку. Ён думаў, што цяпер грудзінка не прападзе.

Але грудзінка цераз ноч зноў знікла. Жэрдка стаіць на месцы, а грудзінкі няма. Паляўнічы ўзлаваўся і парашыў злавіць злодзея. Ён зноў павесіў на тым-жа месцы грудзінку, а сам схаваўся і пачаў вартаваць.

І вось што ён убачыў. З кустоў асцярожна вылез малады мядзведзь. Ён падышоў да тонкага дрэва, якое расло побач з жэрдкай, і пачаў на яго карабкацца. Узлез на самую верхавіну, пагайдаўся, і дрэва пачало гнуцца ў той бок, дзе была жэрдка з грудзінкай. Мядзведзь штуршкамі падцягваўся на дрэве ўсё бліжэй і бліжэй і, нарэшце, лапай дастаў грудзінку. Сарваў яе і скокнуў на зямлю. І следу нават не засталося. Толькі дрэва пахісталася яшчэ крыху.




# Порах

Л. БАЙДАКОЎ

*Мал. Ю. Пучынскага*

У глыбокай даўнасці, у 1342 годзе іспанскія каралеўскія войскі асадзілі горад Алхезірас, у якім знаходзіліся арабы. Ля сцен гэтага горада іспанцы паставілі шмат катапульт і пачалі рыхтавацца да штурму.

Той дзень, калі ўсе падрыхтоўчыя работы былі закончаны, выдаўся ясны і сонечны. Па сігналу каралеўскія войскі пастроіліся ў калоны і на чале сваіх камандзіраў рушылі да сцен крэпасці. Настрой у іспанцаў быў прыўзняты і бадзёры, бо перавага ў сіле была на іхнім баку. Іспанскія военачальнікі толькі дзівіліся: як гэта невялікая жменька арабаў адважылася супраціўляцца шматлікай каралеўскай арміі? Аддаючы загад ісці на штурм, яны ніколькі не сумняваліся, што праз некалькі гадзін горад будзе ў іхніх руках.

І сапраўды, войска ў арабаў было вельмі мала. На сценах крэпасці арабы не паставілі нават ніводнай катапульты. Адзінае, што ўсцягнулі абаронцы на сцены—гэта былі звычайныя металічныя трубы, на якія іспанскае войска не звярнула ніякай увагі.

Узброеныя каралеўскія войскі смела кінуліся да крэпасці і тады ... адбылося для іх нешта незвычайнае. З тых самых металічных труб, аб прызначэнні якіх яны нават і не пацікавіліся даведацца, раптам вырваліся снапы агню. Грымнулі выбухі, і ў калоны іспанцаў паляцелі каменныя ядры. Між іншым, пападанне было вельмі дрэннае і калі-б іспанцы кінуліся да сцен, дык, безумоўна, авалодалі-б горадам. Але гэтыя трубы, якія з грукатам выкідваюць агонь і каменні, нагналі на іх такі жах, што яны закрычалі:

— Арабы знаюцца з нячыстай сілай!

У адзін момант уся каралеўская армія, пакідаўшы зброю, адвярнулася ад сцен горада і пабегла. Пабеглі не толькі радавыя салдаты, але і іхнія камандзіры і палкаводцы...

Вядома, ніякай «нячыстай сілы» ў арабаў не было. Проста яны ўпершыню скарысталі ў вайне порах.

Порах вынайшлі кітайцы. Але ваявалі яны менш, чым арабы, і не здагадаліся, што яго можна скарыстаць у войнах. Замест гэтага порах ішоў у іх на забавы:

пры дапамозе пораху кітайцы ў час святаў рабілі нешта падобнае на фейерверкі.

Арабы вельмі хутка заўважылі, што порах мае вялікую ўзрыўную сілу. Тады яны ўзялі трубу, насыпалі ў яе пораху, паклалі наверх камень і падпалілі. Порах узарваўся і выкінуў камень на вялікую адлегласць. Арабы парашылі скарыстаць порах супроць сваіх ворагаў, але нікому гэтага не сказалі, і вынік атрымаўся цудоўны.

Хоць порах вынайдзен даўно, многія і да гэтага часу не ведаюць, з чаго ён робіцца. Шмат хто не ведае таксама, чаму іменна порах выкарыстоўваецца пры стральбе з гармат, вінтовак, кулямётаў. У адной школе, у вайсковым гуртку, на апошняе пытанне нам адказалі так: «Порах выкарыстоўваецца для стральбы таму, што пры згаранні ён дае найбольш энергіі».

Гэты адказ зусім няправільны. Не меншую энергію даюць пры згаранні дровы, каменны вугаль і бензін. Бензін, напрыклад, дае нават значна большую энергію, чым порах. Адным кілаграмам бензіна можна нагрэць 10 тысяч літраў вады на адзін градус, тады, як адным кілаграмам пораху на адзін градус можна нагрэць толькі 665—900 літраў вады. Аднак, гэта не значыць, што бензін можа замяніць порах. Порах згарае адразу, а бензін зусім не гарыць без паветра. Чаму? Таму, што порах мае не толькі тое, што гарыць, але і тое, што падтрымлівае гарэнне — кісларод, а бензін яго не мае. Апрача таго, пры згаранні порах вылучае вельмі шмат газаў, якія даюць рух снараду, кулі, міне.

Порах складаецца з вугалю, селітры і серы. Вугаль — матэрыял, які гарыць, селітра — падтрымлівае гарэнне, бо мае кісларод, а сера злучае вугаль і селітру ў адну матэрыю. Гэты порах называецца дымным. Але ён не задаволіў чалавека, бо дэмаскіраваў месца размяшчэння войск і ўвесь не згараў. Таму цяпер ужываюць бяздымны або піраксілінавы порах, які ўвесь згарае і дае шмат газаў. Яго атрымліваюць з піраксіліна, апрацаванага сумессю спірта і эфіра.



*... Уся каралеўская армія пабегла.*



# Мыльныя пузыры

*П. МЯДЗВЕДЗЕЎ*

## НЕКАЛЬКІ НЕЗВЫЧАЙНЫХ ПЫТАННЯЎ

Кожнаму з вас, напэўна, не раз прыходзілася выдуваць мыльныя пузыры. Забава гэтая вельмі цікавая і танная. Досыць у вадзе распусціць некалькі невялічкіх кавалачкаў мыла ды адрэзаць саламяную трубачку — вось і ўсе прылады для гульні. Памачыўшы кончык саломкі ў мыльную ваду, падзьмуў у другі яе кончык — і перад табой з'явіцца пузырок, які па меры яго павелічэння робіцца ўсё лепшым: ён загараецца рознакаляровымі фарбамі, як быццам у ім запаліў хто-небудзь каляровыя ліхтарыкі. Запіжаўлены выдувальшчык дзьме далей у саломінку. Пузыр робіцца ўсё прыгажэйшым. Яго сценкі гараць усімі колерамі радугі. Уважлівы назіральнік у гэты момант можа заўважыць на сценках пузыра чорныя кропачкі, якія хутка разрастаюцца ў чорныя кружочкі і... пузыр лопаецца.

Гульня ў мыльныя пузыры здаецца зусім пустой справай. Выдуе гуляльшчык дзесяткі два пузыроў, ганяючы іх, набегаецца па пакою, зморыцца. Пузыры палопаюць і ад іх нічога, нават мокрага месца не застанецца. Так і кажуць пра якую-небудзь справу, якая не дае карысці: «Ат, гэта мыльны пузыр». Нагул — і мыльныя пузыры і гульня ў іх лічацца самай нікчэмнай справай.

Але ці сапраўды гэта так? Не. Выдуваннем мыльных пузыроў займалася шмат вучоных і не толькі ў часы дзяцінства, а і тады, калі ў іх былі ўжо сівыя бароды. Займаўся імі і такі вельмі сур'ёзны чалавек, як англійскі вучоны Ісаак Н'ютон. Пра яго кажуць, што ён за ўсё жыццё ніколі не засмяяўся. І вось ён таксама іншы раз гадзінамі выдуваў мыльныя пузыры і ўважліва разглядаў іх.

Што-ж цікавага можна знайсці ў мыльных пузырах? А вось разгледзім. Ці зможаце вы, напрыклад, адказаць на такія пытанні, якія могуць узнікнуць пры разглядванні пузыра:

Якой таўшчыні сценкі пузыра?

Колькі важыць адзін пузыр?

Колькі пузыроў можна зрабіць з аднае шклянкі намыленай вады?

Якую-б плошчу закрыла паверхня гэтых пузыроў?

Што такое чорныя плямкі, якія з'яўляюцца на пузыры перад тым, як ён лопаецца?

Бачыце, колькі пытанняў можа ўзнікнуць толькі пры першым азнаямленні з пузыром.

А як вымераць таўшчыню сценкі пузыра?

А чаму ён такі трывалы?

Чаму ён афарбован у розныя колеры?

Такіх пытанняў можна шмат паставіць. Каб на іх даць адказ, трэба пісаць цэлую кніжку. Да рэчы, такія кніжкі ёсць. А на некаторыя пытанні навука і зараз яшчэ не мае адказу.

Вось адказы на некаторыя з гэтых пытанняў. Каб людзі ўмелі рабіць паперу такой таўшчыні, як сценка мыльнага пузыра, то трэба-б было ўзяць аж трыццаць тысяч такіх лістоў, каб атрымаць таўшчыню звычайнага ліста паперы. Каб на такой паперы надрукаваць усе творы Льва Талстога (а ён напісаў каля сотні тамоў!), то ўсе тамы мелі-б таўшчыню толькі аднаго лістка з вашага сшытка.

Велізарнейшую бібліятэку ў мільён тамоў можна было-б паставіць на адной этажэрцы.

З прычыны такой малой таўшчыні сценак пузыр важыць вельмі мала. Досыць вялікі пузыр, папярочнік якога будзе 10 сантыметраў, важыць усяго адну дзесяцітысячную долю грама. Гэта значыць, што са шклянкі мыльнага раствору, у якой каля 200 грам, можа выйсці каля двух мільёнаў пузыроў.

Каб размясціць іх адзін каля аднаго, трэба мець вялікую залу. Яна павінна мець 20 метраў даўжынёй і 20 шырынёй, ды 2,5 метры

вышынёй. У гэтай зале можна-б было размясціць 1.200 гледачоў. А каб расцягнуць у адну плошчу сценкі ўсіх гэтых пузыроў, то яна-б закрыла каля 63 тысяч квадратных метраў, гэта значыць больш за шэсць гектараў.

А чорныя плямкі на пузыры — гэта тыя месцы, дзе сценкі пузыра робяцца разы ў тры танчэй. У гэтых месцах яны робяцца вельмі слабымі і з гэтых плямак пузыр пачынае разрывацца.

З гэтых адказаў вы бачыце, што сценка пузыра вельмі тонкая.

## НЕКАЛЬКІ ЦІКАВЫХ ДОСЛЕДАЎ

Давайце зараз правядзем некалькі доследаў над мыльнымі пузырамі. Яны нам пакажуць яшчэ адну ўласцівасць сценак пузыроў.



Вазьміце шкляную лейку не вельмі вялікіх памераў. Апусціце яе шырокі канец у мыльны раствор, выньце лейку і асцярожна дзьмухайце ў вузкі канец. З лейкі пачне выходзіць велізарны пузыр. Асцярожна выдувайце яго далей, пакуль ён загарыцца каляровымі фарбамі. Тады спыніце ўдуванне паветра, бо пузыр можа лопнуць. Калі пузыр не будзе выдувацца, дабаўце ў мыльны раствор крыху цукру або кроплю гліцарыну.

Пасля выдування пузыра выньце з рота вузкі канец лейкі. Пузыр пачне змяншацца і хутка знікне зусім — ён уцягнецца ў лейку. Пузыр трымае сябе, як тонкая, нацягненая гума. Ён імкнецца скарачацца, як гума. Калі, выдуўшы вялікі пузыр, паднесці вузкі канец лейкі да полымя свечкі, то можна нават загасіць свечку. Так моцна сціскаецца пузыр і выганяе з лейкі паветра.

Выходзіць, што плёнка мыльнага пузыра не толькі вельмі тонкая, а моцна нацягнена і імкнецца скарачацца. Нарабіце фігурак, якія паказаны на малюнку і памачыце іх у мыльны раствор. Вы пабачыце рознастайныя плёнкі на фігурках. Усе яны ўтварыліся дзякуючы таму, што плёнка імкнецца як мага скарачацца.

Вы, напэўна, бачылі, як па вадзе, не баючыся ўтапіцца, бегаюць так званыя вадамеркі. А яны зусім не ўмеюць плаваць. Калі вадамерку пасадзіць пад павярхоўны слой вады, яна не выплыве. А па паверхні вады яна рухаецца вельмі спрытна, бо павярхоўная плёнка не прарываецца ад яе вагі.

Вы можаце ў шклянку, якая да краёў запоўнена вадой, укінуць каля сотні іголак. Вада падымецца вышэй краёў, але не выльецца, бо яе ўтрымлівае павярхоўная плёнка-гума. Такую плёнку любая вадкасць мае на ўсёй сваёй граніцы. Плёнка, як сценка мыльнага пузыра, імкнецца скарачацца.

## АД ЗАБАВЫ ДА ВЫТВОРЧАСЦІ

Усе гэтыя ўласцівасці тонкіх плёнак, якія ўдалося вывучыць, назіраючы за мыльнымі пузырамі, далі магчымасць ужыць тонкія плёнкі ў розных галінах тэхнікі і вытворчасці.

Вось, напрыклад, у часе шторму на моры выліваюць з парахода ў ваду бочку нафты. Яна расплываецца тонкай плёнкай па вадзе. Нацягненне плёнкі нафты меншае, чым плёнкі вады, і таму хвалі суцішаюцца і карабель можа спакойна плыць.

Адпае бочкі нафты даволі, каб уціхамірыць хвалі на вялікай адлегласці.

Дзякуючы ўласцівасцям тонкіх плёнак удалося таксама знайсці спосаб аддучыць дробныя часткі металаў ад рознага каменя. Гэтым спосабам карыстаюцца ў горнай прамысловасці.

Шмат чаго яшчэ можна сказаць аб мыльных пузырах. Але вы ўжо і зараз бачыце, што гульня з мыльнымі пузырамі не такая нікчэмная справа, як яе лічаць.

# ЗІМОВЫЯ ГУЛЬНІ

## АТАКА

Усе ўдзельнікі гульні складаюць узвод. Выбіраюць камандзіра ўзвода. Пядрэнна, калі за камандзіра будзе ваенны кіраўнік. З узвода вылучаюць групу чалавек 10 на чале з камандзірам групы. Група займае абарону на якім-небудзь узгорку. Камандзір групы размяшчае кожнага «байца» так, каб стварылася кругавая абарона. «Байцы» робяць сабе акопы і рыхтуюць снежкі. (Снежкі павінны быць толькі мяккія).

Усіх астатніх камандзір узвода разбівае на аддзяленні на чале з камандзірамі аддзяленняў і вызначае кожнаму аддзяленню напрамкі наступлення. Сам камандуе і назірае за ходам гульні.

З трох бакоў узвод наступае на абараняючыхся. Наступаючыя ідуць на зблізжэнне з «праціўнікам» перабежкамі па-аднаму, паўзуць па-пластунску, маскіруючыся за кустамі, узгоркамі.

Абарона сустракае іх снежкамі. Калі снежка трапіць у наступаючага—значыцца, ён «забіты», выходзіць са строю і ў гульні не ўдзельнічае. Уцалеўшыя «байцы» падпаўзаюць да «праціўніка» метраў на 10 і па камандзе камандзіра ўзвода: «Увага! падрыхтавацца да атакі!» робяць сабе снежкі і чакаюць наступнай каманды. Але вось раздаецца каманда: «Устаць! У атаку! Наперад!» З крыкам «ура», закідаючы абарону снежкамі, наступаючыя бягуць на ўзгорак, адкуль «праціўнік» стараецца іх выбіць.

Па сігналу камандзіра ўзвода (круціць над галавой рукой—гэта значыць «узвод, да мяне») усе збіраюцца і выстрайваюцца ў шарэнгу. Камандзір узвода робіць разбор гульні: адзначае недахопы і аб'яўляе, хто пераможца.

Пераможцам, вядома, будзе той, хто выконвае ўсе правілы гульні, якая павінна мець таварыскі характар і выяўляць спрыт і ўменне.

## МАСКІРОЎШЧЫКІ

У ваенна-інжынернай справе — маскіроўка вельмі важны раздзел баявых дзеянняў войск. Трэба маскіраваць месцазнаходжанні сваіх гармат, кулямётаў, схаваць ад праціўніка колькасць байцоў, якія знаходзяцца на тым ці іншым участку фронта.

Для маскіроўкі ваенныя інжынеры часта робяць несапраўдныя акопы, доты і розныя гарматы. Са снегу і лёду, каб ашукаць непрыяцеля, можна зрабіць макеты танка, гарматы, бронеаўтамабіля.

Паспрабуйце, рэбяты, і вы зрабіць з лёду і снегу розныя ваенна-інжынерныя пабудовы і ўзбраенне.

## ЛЕДЗЯНЫ БЕТОН

Дот—гэта доўгачасовая агнявая точка. Ён робіцца з бетону, і толькі артылерыйскія снарады могуць яго разбурыць. Каб захапіць дот, трэба амаль ушчыльную падкрасціся да яго і закідаць яго амбразуры гранатамі ці падарваць. Для ваеннай гульні зімой дот можна рабіць з ледзянога бетону. Снег з зямлёй, аблітыя вадой, замярзаюць і атрымліваецца добры ледзяны бетон.



# НАСЦЕЧКА

*Кузьма ЧОРНЫ* *Мал. В. Ціхановіча*

*(Працяг *)*

6

— А далей было так,—пачаў зноў расказваць бацька, садзячыся разам з Сержам за стол (Серж не мог прычакаць пасцелі і намогся, каб бацька цяпер гаварыў),—бандыты нас пратрымалі ў лесе да ночы. Мне было так страшна і так цёмна на душы, што як-бы стопудовы камень сціскаў мае грудзі і жалеза душыла мне горла. І зоры над маёй галавой здаваліся мне, як у тумане. Вельмі моцна пахла лісце на дрэвах, і ад гэтага мне было яшчэ цяжэй. Я гэты пах адчуваў, як нешта такое, што для мяне ўжо скора скончыцца назаўсёды. Больш, як калі-небудзь у сваім жыцці, я ў гэты момант адчуваў, якое шчасце жыць на свеце.

— Не зважай ні на што, будзь смел,—сказаў мне Закрэўскі.

— Начорта мы гэтую фурманку з сабой цягнем,—сказаў адзін бандыт.—Здалёк чуваць, як колы ляскочуць.

— А дзе-ж ты яе дзенеш?—адказаў другі.—На дарозе пакінеш? Днём убачаць і пачнуць здагадвацца.

Бандыты перад намі адкрыта ўсё гаварылі,—яны былі ўпэўнены ў сваёй сіле.

Як добра ўмеркла, бандыты павялі нас далей. Доўга вялі яны нас лясной дарогай і прывялі ў нейкі лясны хутар. Нас увялі ў склеп. Вусаты бандыт сказаў, павярнуўшыся да Закрэўскага:

— Мы вас усіх выпусцім, толькі напішы акты, што на гэтых хутарах хлеба няма і браць няма чаго. А пасля ты прывядзеш мне ўезднага камісара.

— Ты яго тут забіць хочаш?

— А гэта ўжо мне ведаць, што я з ім зраблю.

— Ну, а калі замест камісара я прывяду сюды чырвонаармейцаў?

— А я пушчу пакуль што толькі цябе аднаго. А іх (ён паказаў на мяне і фурманшчыка)... а іх тады, калі ты прывядзеш камісара.

Закрэўскі моўчкі пачаў азірацца навакол: ніякай надзеі выбрацца адгэтуль не было.

— Пусці яго,—сказаў Закрэўскі, паказваючы на мяне.—Няхай ён прывядзе камісара.

— А я хачу, каб ты!—зароў бандыт.

— А я з табою і гаварыць не хачу!—адказаў Закрэўскі.

Бандыты выйшлі і замкнулі нас у склепе.

— Ты на мяне не крыўдуй,—сказаў мне Закрэўскі,—што я так пра цябе сказаў, што ты камісара прывядзеш. Я ведаю, што ты гэтага не зробіш. Але я хацеў, каб яны цябе пусцілі. Лепш-жа мне, пажыламу чалавеку, загінуць, як табе, маладому. Я пажыў ужо крыху на свеце, а ты, можна сказаць, яшчэ не спрабаваў жыцця. А якое там і жыццё было табе, парабчуку?.. Цяпер толькі і жыць табе стала, калі прыйшла совецкая ўлада. Ты цяпер чалавекам будзеш.

Раптам мы пачулі, што фурманшчык плача.

— Нічога, братка,—пачаў цешыць яго Закрэўскі.—Яшчэ-ж нас не страляюць, яшчэ ўсё можа быць. А яны цябе і чапаць не павінны. Ты-ж толькі фурманшчык.

Смелы тон слоў Закрэўскага і ўся яго вытрымка надалі фурманшчыку смеласць. Ён наспакайнеў і пачаў часта заглядваць у шчыліну ў дзвярах.

Так прайшло, можа, гадзіны дзве. Бандытаў не чуваць было. Фурманшчык зноў паглядзеў у шчыліну.

— Дзень блізка,—уздыхнуў фурманшчык,—на двары шарэй стала.—Тут ён павысіў голас:—Яны ідуць... Нейкая дзяўчына з імі...

Мы па чарзе пагле дзелі ў шчыліну і ўбачылі, што перад бандытамі стаіць дзяўчына і нешта ціха гаворыць ім. Відна было, як яна кудысьці паказвае пальцам.

— Дзе, дзе ты бачыла?—моцна загаварыла некалькі бандытаў.

— За садам, пры гумне,—адказала дзяўчына.

— А колькі іх?

— Больш як пяцьдзесят.

І тут адбылося тое, чаго мы ніяк не чакалі: бандыты рванулся з месца і адразу зніклі. Не паспелі мы адумацца, як пачулі, што па

* Пачатак гл. у № 4, 5, 6—7 за 1945 г.

дзвярах грукаюць нечым цяжкім. Мы не ведалі, што гэта робіцца. Пасля дзяўчына прасунула нам пад дзвярыма ў шчыліну сякеру і сказала:

— Я не магу замка адбіць, разбівайце дзверы.

Фурманшчык хапіў сякеру і разоў пяць так грукнуў у дзверы, што замест іх толькі пашчэпаныя дошкі асталіся.

— Бяжыце за мной,—сказала дзяўчына.

Яна нас вывела на лясную дарогу.

— Хто ты такая?—запытаў у яе Закрэўскі.

— Я тут служу за парабчанку. Я не спала і заўважыла, як вас прывялі. Я падкралася да склепа і падслухала, што яны гавораць. Я ўсё зразумела і сказала гэтым бандытам, што за гумном каля поўсотні чырвонаармейцаў з'явілася. Я ўсё гэта выдумала, каб выратаваць вас.

Фурманшчык паглядзеў на дзяўчыну, і на яго твары ўвесь час трымалася радасная ўсмешка. Ён стаў, як дзіця: зрываў з кустоў лісце і нюхаў, хапаўся рукой за вяршкі маладых хвоек...

— Бандыты будуць нас лавіць,—сказала дзяўчына.

Фурманшчык зноў спалохаўся.

— А гэта што?—сказаў вясёлым тонам Закрэўскі, каб падбадзёрыць фурманшчыка, і дастаў з-пад пінжака рэвальвер, якога бандыты не паспелі забраць.

Тут Закрэўскі пачаў мацаць па кішэнях і стаў неспакойны.

—У часе гэтай мітусні недзе згубіў рэвальверныя набоі. Толькі ўсяго і ратунку таго, што ў рэвальверы невыстраленыя.

Дзяўчына паказала нам, у якім баку бліжэйшая вёска. Мы з Закрэўскім пайшлі ў той бок лесам, а дзяўчына з фурманшчыкам ішлі за намі крокаў за пяцьсот.

Нам трэба было перайсці ўпоперак дарогу, а там, цераз невялікі лясок, мы вышлі-б ужо ў адкрытую, людную мясцовасць. Але ў гэтым месцы мы наткнуліся на двух бандытаў. Мы іх пазналі, на гэтай самай дарозе яны ўчора падышлі былі да нашага воза. Відаць, бандыты разбрыліся цяпер па ўсім лесе, шукаючы нас; напэўна, яны ўжо ведалі, што дзяўчына іх ашукала. Гэтых двух мы ўбачылі па той бок дарогі, яны выглядалі з-за дрэва. Трэба было прабіцца сілай. Як я шкадаваў, што ў мяне няма маёй вінтоўкі! Два бандыты нас яшчэ не бачылі. Закрэўскі закрыў мяне сваімі плячыма і сказаў так бегчы за ім. Мне стала так сорамна перад ім, што ён, старэйшы, закрывае мяне, маладзейшага, што я пачаў прасіць, каб ён даў мне свой рэвальвер, а сам ішоў за мною.

— Слухай, што я табе кажу!—сярдзіта скамандаваў ён мне моцным шэптам.—Марш за мной, і каб я ад цябе больш ні слова не чуў. Крычы разам са мной «ура».

Я сябе так адчуў у гэты момант, што быццам-бы мне было ўсяго год пяць. Скажу табе, што незавідная гэта справа, калі нехта цябе ратуе, а ты не можаш нават і памагчы яму, а ні то, каб самому ратаваць сябе. Мы закрычалі і пабеглі проста на бандытаў; бег я, хаваючыся за Закрэўскага плечы. Закрэўскі, крыкнуўшы, стрэліў з рэвальвера. Ад такой нечаканасці тыя два перапалохаліся і затрапяталіся. Можа, яны нават і не разглядзелі нас, як трэба, адзін з іх стрэліў нам насустрач, і яны кінуліся бегчы. Я ўбачыў, што Закрэўскі раптам пачаў прыпадаць на адну нагу, але ў такой сумятні адразу не здагадаўся, што гэта такое. Мы перабеглі цераз дарогу, і Закрэўскі яшчэ раз стрэліў наўздагон тым двум. Яны недзе скрыліся ў лесе. Вельмі шпарка перайшлі мы цераз прыдарожны лясок і выйшлі на поле. І тут Закрэўскі застагнаў. Нейк адразу ён абмяк, і я ўбачыў, што ў яго з нагі, вышэй калена, сочыцца кроў.

— Раніў, гад, мяне, — сказаў Закрэўскі і абапёрся на маё плячо.



*— Мы вас усіх выпусцім, толькі напішы акты...*

Я ўзяў з яго рук рэвальвер.

— Пусты,—сказаў Закрэўскі,—няма больш чым страляць. І яшчэ мацней застагнаў. Я трымаў яго пад плячо, і так мы дайшлі да вёскі. Адтуль на фурманцы мы прыехалі ў мястэчка, і Закрэўскі тады больш як месяц ляжаў у бальніцы. Паправіўшыся, ён стаў працаваць на тым самым месцы. Нага яго асталася крыху папсаванай. Яна яму хоць і не балела, але ён на яе накульгваў, не вельмі моцна, але гэта было відна. Так у яго і асталося назаўсёды. З таго часу мы з ім сталі блізкімі людзьмі. Ён мне быў, як родны бацька. Памагаў заўсёды і клапаціўся аба мне. Пасля я паехаў вучыцца, а ён выехаў працаваць у іншае месца. Мы пісалі адзін аднаму пісьмы, а ўлетку я прыязджаў да яго ў госці. У яго быў сын, мой аднагодак, ён стаў маім блізкім таварышам. Аднойчы Закрэўскі напісаў мне страшную вестку: яго сын, зусім яшчэ малады чалавек, памёр, пакінуўшы маленькую асірацелую дзяўчынку і жонку. Сын яго быў у вёсцы настаўнікам. Прайшло яшчэ некалькі часу, і неяк так здарылася, што мы не сустракаліся. Апошнія гады мы не ведалі адзін пра аднаго нічога. А нядаўна я спаткаў яго тут на вуліцы. Мы так узрадаваліся адзін аднаму, што абняліся проста сярод вуліцы, не зважаючы на тое, што на нас азіраюцца людзі. Ён пераехаў жыць у гэты горад. Ён даў мне свой адрас, а я яму наш. І нешта ён да мяне не заходзіць, можа ён хворы, ён ужо зусім стары. Заўтра выхадны дзень, заўтра я пайду да яго.

— І я пайду з табой,—сказаў Серж.

— Добра, і цябе вазьму.

Серж ужо любіў гэтага старога чалавека, у яго думках вобраз яго склаўся ўжо як вобраз героя і вельмі цікавага чалавека, якога можна толькі любіць і паважаць.

— Пайшла-б і я з вамі, але мне трэба ісці даведацца таго чалавека, якога Серж так скрыўдзіў. Ну, але я пайду да Закрэўскага другім разам, калі ён да нас скора не прыдзе. Мне таксама яго вельмі хочацца пабачыць.

— А што стала з той дзяўчынай, якая тады выратавала вас ад бандытаў?—запытаў Серж.

— Я тады...—пачала гаварыць Сержава маці, але Серж перабіў яе:

— Прычым тут ты? Не перашкаджай расказваць.

Маці ўсміхнулася, а бацька сказаў:

— А тая дзяўчына з фурманшчыкам дайшлі да вёскі пазней за нас, яны не маглі перайсці занятую бандытамі дарогу. Перад вечарам на тое месца прыехалі чырвонаармейцы, якім я наказаў у мястэчку.

— Той фурманшчык,—сказала маці, — як толькі явіўся дадому, пачаў бедаваць, што недзе



*Закрэўскі стрэліў з рэвальвера.*

там астаўся яго конь. А праз некалькі дзён чырвонаармейцы прывялі яму яго каня.

— Прычым тут ты! — закрычаў Серж. — Бацька, а што стала пасля з той дзяўчынай?

— О, яна асталася знаёмая мне на ўсё жыццё.

— А цяпер яна дзе?

— Ты яе вельмі добра ведаеш. Толькі яна цяпер не такая маладая, з таго часу прайшло дзесяткі два год.

— Як-жа я яе ведаю?—аж падскочыў на сваім крэсле Серж.—Дзе яна?

— А от яна. Гэта твая мама.

Серж адкінуўся на спінку крэсла і разявіў рот ад здзіўлення, не зводзячы вачэй з сваёй маці.

### 7

Насцечка Закрэўская апошнімі часамі пачынала ўжо сумаваць без сваёй мамы. Асабліва гэта здаралася тады, калі ўвечары, падрыхтаваўшы свае ўрокі, яна слалася спаць. Спала яна на канапе. У гэтыя часы дзед яе ўжо спаў, і яна была адна сама з сабою. Паслаўшы пасцель, перад тым, як легчы, яна вылічвала, колькі яшчэ да сакавіка месяца, калі мама назаўсёды прыедзе з Масквы. Аставалася яшчэ многа часу, і Насцечка не магла вытрымаць: яна скоранька прысядала к сталу і пісала маме пісьмо. Так было, бадай, штодзень. Кожнае пісьмо было кароткае. Калі збіралася пісем тры, Насцечка складала іх у адзін канверт і пасылала ў

Маскву. А тады тушыла святло і, узбуджаная, прыпадала тварам да аконнай шыбы. Позна яшчэ не было. Завулкам праходзілі людзі, часам праязджала машына. Насцечка любіла, калі вечарамі дзьмуў вецер. Тады, лежачы ў пасцелі, добра было слухаць, як шуміць голы клён каля іхняга акна, і здаецца, што тэта нейкая бесканцовая песня ці доўгі-доўгі расказ. Сапраўды, тэта быццам нехта нешта расказвае, цікавае, важнае і патрэбнае. А яшчэ гэты шум нагадвае доўгую-доўгую дарогу, паабапал якой стаяць вёскі і гарады, і ўсюды жывуць людзі. Праходзяць паязды, і пыхкаюць дымам паравозы, дымяцца ў небе заводы, зеляне́юць паплавы, пагойдваецца жытняе поле, у хвоях чуцен роўны ветравы шэпт, у рэчцы блішчыць пад сонцам вада. А як пахнуць мокрай травой прасторы рачных берагоў! А якое сонца ўзыходзіць яснай раніцай! А які агністы захад бывае ў бясхмарны дзень! І як добра, што пасля восені бывае зіма, а пасля зімы вясна, а тады лета і зноў восень! Колькі ўсяго на свеце многа, і як добра быць сярод усяго гэтага! І як добра, што сярод гэтага свету дзед так жыў, што мае цяпер многа чаго расказаць сваёй унучцы Насцечцы! І як добра тое, што будзе наперадзе! Увосень слаўна чакаць першага снегу, а зімой—першай травы! І як радасна ўбачыць першы жоўты лісток на дрэве. А самае найпрыгажэйшае лісце бывае ўвосень на асінах. Які колер! Шум ветру за акном пераходзіць у ціхую музыку, расплываецца ў штосьці невыразнае,—Насцечка ўжо дрэмле ў сваёй пасцелі, і нарэшце, прыходзіць сон, моцны, салодкі і здаровы.

Ноч праходзіць, як адзін момант. Насцечка прачынаецца ўжо раніцой. Дзесяць мінут яна ляжыць і ўстанаўляе ў памяці, што яна будзе рабіць у гэты дзень, а пасля ўстае і шпарка адзяецца. К гэтаму часу ўжо гатова снеданне, і дзед ужо клапоціцца ў кухеньцы і весела падае адтуль голас:

— Расчухвайся, расчухвайся, малая, у школу скора.

А калі захварэў дзед, усё пайшло інакш. Насцечка ўставала гадзін за тры да таго, калі ёй ісці ў школу. Яшчэ была ноч, калі яна запальвала святло, накладала ў печ дроў або перабірала крупы ці гарох, каб, прышоўшы з школы, адразу паставіць на прымус варыць абед. Напаіўшы дзеда чаем і пакарміўшы яго, яна бегла



*Пакарміўшы дзеда, яна бегла ў школу.*

ў школу, а прышоўшы дадому, варыла абед, хадзіла на рынак, прыносіла ў кухню дровы. Добра, што дзедава хвароба доўга не цягнулася. На дзесяты дзень ён пачаў уставаць і праходжвацца ад ложка да стала, а пасля сядзеў, а пасля сам пачаў грэць чай і падпальваць у печы. З кожным днём яму рабілася ўсё лепш.

Але за час хваробы Насцечка была такая занятая, што ёй не было калі не толькі пісаць маме пісьмы, але нават і сумаваць па ёй. За работай дні прайшлі вельмі скора, і Насцечка не напісала маме ніводнага пісьма. Мама ў Маскве ўстрывожылася і пастаралася ўзяць да самай вясны водпуск, каб весці сваю навуку дома і каб толькі ў самым канцы паехаць завяршыць яе. Яна і дала тэлеграму Насцечцы, што тымі днямі прыедзе. Гэта было ўжо тады, калі дзед пачынаў рабіць усё сам і нават ужо выходзіў раз прайсціся па завулку—без гэтай праходкі яму быццам нечага не хапала, так ён прывык да яе.

Ужо нападаў першы снег, але яго было яшчэ мала, шмат дзе з-пад яго відна была яшчэ мёрзлая зямля. Дзень быў хмурны, мяккі. Насцечка прачнулася рана, і ёй ужо не хацелася спаць. Яшчэ было можа больш за гадзіну да рассвітання, а яна ўжо выспалася. Яна паднялася, каб запаліць святло, і заўважыла, што ў кухні гарыць лямпачка. Дзед там нечым займаўся.

— Я ўжо растухваюся! — закрычала Насцечка.

— Спі, яшчэ рана,—адказаў дзед.—Чаго табе так рана ўставаць, матыль?

— А ты чаго так рана ўстаў?

— Мне, старому, не спіцца. Я выспаўся.

— Ты думаеш, я не ведаю, чаго ты так рана ўстаў? Я хітрая, я ўсё ведаю. Я-ж бачу, што ты там нешта пераастаўляеш у кухні. Ты наводзіш там парадкі, каб усё было так, як было тады, калі мама адгэтуль паехала. Ты хочаш, каб мама застала тут ранейшы парадак.

— Бо гэта так і трэба, каб мама не сказала, што мы неахайнікі.

Насцечка раптам саскочыла з пасцелі і кінулася ў кухню:

— А дзе тут якія непарадкі? — закрычала яна.—Ну, скажы, дзе што не так, як трэба?

— Я-ж на цябе нічога не кажу, матыль ты мой дарагі.

— Ой, дзевачкі, ён мне нічога не кажа, а сам пайшоў глядзець, што пасля мяне прыбіраць трэба.

Насцечка хапіла дзеда за камізэльку і пацягла з кухні ў пакой. Дзед рабіў выгляд, што ўпінаецца, а Насцечка рабіла выгляд, што не заўважае гэтага, і цягнула яго.

— Каб ты мне больш у кухню не хадзіў!—пішчала Насцечка.—Ты яшчэ хворы, чаму ты не ляжыш?

— Ой, я ўтаміўся,—прасіўся дзед.—Дай аддыхацца!

Насцечка пусціла яго, ён сеў на канапу і сапраўды пачаў адлыхвацца.

— Нядобра, ліха на яго, калі да старасці далучыцца хвароба, — гаварыў ён па слову.

I от, нарэшце, Насцечка ўбачыла, што дзед адлыхаўся і бярэцца за тытунь, каб закурыць люльку.

— Ой, ты хітры,—сказала Насцечка.

— Чаму гэта я хітры?—запытаў дзед.

— Я ведаю, чаму табе не спалася сёння. Ты гэта не можаш прычакаць, каб скарэй ісці на вакзал спатыкаць маму.

— Ой, дзевачкі!—запішчаў дзед, дражнячы Насцечку.

— Ты мяне дражніш таму, што я ўгадала, і табе ўжо няма чаго казаць больш.

Гэта была праўда, і дзед ціхом закурыў люльку. Яму, сапраўды, з паўночы не спалася, і ён, як малы, чакаў, каб хутчэй прышла раніца, калі ён з Насцечкай пойдзе на вакзал сустракаць дарагога і роднага чалавека. Учора была тэлеграма, што Насцеччына мама прыедзе сёння зранку. Цяпер толькі што пачало днець, а маскоўскі поезд прыходзіў пасля паўдня. Пасмактаўшы крыху люльку, дзед сказаў такім тонам, каб Насцечка не заўважыла, што яна ўгадала, чаму яму не спалася:

— А нам-жа яшчэ трэба прыгатаваць, каб усё было гатова к мамінаму прыезду.

— Ой!—крыкнула Насцечка.

— Дзевачкі!—піскнуў дзед.

— Ой, дзевачкі!—зарагатала Насцечка.—А мама вельмі любіць гарохавы суп, давай сёння зробім.

— Ну, давай.

Насцечка адным махам ног пераскочыла цераз пакой і выцягла з шафы торбу з гарохам. Удваіх яны перабіралі гарох, пасля пілі чай, пасля зноў перабіралі гарох. Так марудна ў іх ішла работа таму, што яны не так перабіралі той гарох, як падражнівалі́ся адно з адным, свавольлі так, быццам дзеду таксама было год дванаццаць.

— Ой!—не вытрымала, нарэшце, Насцечка.

— Дзевачкі!—запішчаў дзед.

— Каб здаецца скарэй той поезд з мамаю прыходзіў!—сказала Насцечка і папусціла ў дзеда гарошынай.

— Праўда,—згадзіўся дзед, сумна паківаўшы галавой.

I от прышоў дзень. Раніца скончылася, дзед патушыў святло і паглядваў у акно.

— О, снегу падбавіла за ноч,—сказаў ён,—прыдзецца табе, Насцечка, даставаць свае лыжы.

Дзед адзеўся ў святочны гарнітур і доўга круціў перад люстэркам свае сівыя вусы. Насцечка таксама апранулася ў святочнае адзенне і раптам заўважыла, што гароху яны так і не скончылі перабіраць.

— Што-ж гэта будзе з нашым супам?.. — сумна прамармытаў дзед.

— Ой, нудна нейк чакаць, няма чаго рабіць, каб скарэй той поезд прыходзіў.

— Давай скончым гэты гарох і выйдзем на вуліцу,—сказаў дзед.

I яны зноў селі за гарох, але тут сыпануўся ў дзверы дробны стук і ў сенцах абазваліся хорам дзіцячыя галасы:

— Насцечка, адчыні!

— Ой, дзевачкі! — радасна крыкнула Насцечка і, рассыпаўшы на падлогу жменю гароху, кінулася к дзвярам, каб адчыніць іх. Увайшлі тры дзяўчынкі—Рая, Фаня і Надзя.

— Скарэй, скарэй сюды, матылі вы мае,—радасна затрапятаўся дзед.

**(Канец будзе).**

# *Гісторыя чаравіка*

Г. АЎРУЦКІ

## САНДАЛІ І ЧАРАВІКІ

Абутак мае доўгую і цікавую гісторыю.

Першы абутак, прыдуманы чалавекам, быў вельмі просты. Чалавек браў кавалачак скуры ці дрэва, прывязваў да ног вяровачкамі або раменчыкамі — тэта і быў абутак. На малюнках паказаны ўзоры такога няхітрага абутку.



1. Егіпецкія сандалі. Арабскія сандалі.

У старажытнай Русі ўжываўся такі абутак. Адразалі кавалкі нявырабленай бычынай скуры, або бяросты ці лыка. Падвязвалі такія падэшвы да ног, а зверху нагу абкручвалі анучамі.

Кітайцы рабілі сандалі з саломы або дрэва. У турак побач з іншымі ўзорамі абутку ўжываліся «хадулі» (гл. малюнкі). Хадулі абцягваліся чырвоным або сінім аксамітам і абіваліся пласцінкамі і срэбнымі ці залатымі цвічкамі. Такі абутак сустракаўся ў сярэднія вякі і ў Еўропе.

Сандалі закрывалі толькі ступню ног. Пальцы-ж і пяткі заставаліся адкрытымі. Зразумела, гэта быў вялікі недахоп сандаляў. Тады людзі прыдумалі новыя ўзоры абутку—чаравікі. Спачатку яны пашырыліся ў Азіі і Афрыцы, а потым перайшлі і ў Еўропу. Асабліва вялікі поспех мелі чаравікі ў халодных краінах.

Побач з чаравікамі ва ўсіх краінах пачалі пашырацца поўбоцікі. Невысокія халявы закрывалі толькі ніжнюю частку галені. Поўбоцікі шылі з мяккага саф'яна (тонкай фарбаванай скуры). Верхнія краі поўботікаў часта рабіліся шырэйшымі, іх закасвалі ўніз, каб відаць была падкладка.

А ўслед за поўбоцікамі з'явіліся боты з халявамі і да кален і за калені.

У Еўропе абутак увесь час удасканальвалі. Так з часам з'явіліся на бацінках і туфлях розныя банцікі, істужкі, клапаны з засцёжкамі, гузікі, шнуркі і інш.—усё тое, што мы бачым зараз на абутку.

## КОЛЕР І АЗДАБЛЕННЕ АБУТКУ

Даўней абутак лічыўся вялікай раскошай. Толькі багатыя людзі маглі насіць дарагі скураны абутак.

Вось чаму багатыя людзі карысталіся абуткам і для таго, каб паказаць сваю перавагу перад іншымі.

Нават у законах было адзначана, хто і які абутак мае права насіць.

Першай асобай у дзяржаве быў цар. Яго абутак мусіў адрозніванца ад абутку падначаленых. Царскія чаравікі аздабляліся брыльянтамі, золатам, перламі, бранзалетамі. Яны павінны былі здзіўляць усіх незвычайнасцю і багаццем.

Апрача таго — што было асабліва важна! — царскія чаравікі шыліся заўсёды аднаго колеру. Розныя цары выбіралі сабе колеры па густу. Індускія цары і кітайскія імператары паважалі жоўты колер, візантыйскія імператары — чырвоны і г. д.

Ніхто апроч цара ці імператара не меў права насіць абутку тэтага колеру. У Візантыі, напрыклад, за парушэнне тэтага закона каралі смерцю. Прыдворным і вышэйшым у дзяржаве асобам таксама вызначаўся пэўны колер адзення і абутку: зялёны, чорны і інш. Вайскоўцы звычайна насілі чорны абутак.

## АБСАЦ

Усе віды абутку старажытнага і сярэдніх вякоў мелі адну асаблівасць: яны былі плоскімі без абсацаў. Толькі ў грэчаскіх сандалях — «катурнах»—падэшвы падбіваліся тоўстым пластом коркавага дрэва. Такія сандалі насілі



2. Хадулі. Асірыйскія сандалі.

артысты, — каб выглядаць на сцэне вышэй свайго росту.

Абсацы на абутку з'явіліся ў XVI і пачатку XVII века, спачатку ў Іспаніі, потым—у Францыі. Абсацы перш-на-перш паставілі на боты для верхавой язды: бот з абсацам лепш трымаўся ў стрэмені.

Хутка абсацы пачалі ставіць і на іншы абутак, асабліва для людзей нізкага росту. Першыя абсацы былі шырокія і нізкія. Потым з'явіліся абсацы вузкія і высокія. У Расіі ў XVII веку жанчыны насілі абсацы вышынёю да 1/4 локця, гэта значыць 12—13 сантыметраў.

## НАСОК ЧАРАВІКА

Гісторыя наска ў абутку вельмі цікавая.

Большасць старажытных народаў шылі сабе абутак з простым наском. Толькі арабы і часткова кітайцы ўвялі загнуты ўверх насок: з такім наском хадзіць па пясках зручней і лягчэй.

Загнуты насок трапіў і ў Еўропу. У Еўропе ён так пашырыўся, што лічыўся лепшым фасонам і модай.

Знайшліся аматары, якія рабілі наскі даўжынёй да 2-х футаў (0,6 метра). Наскі матляліся і перашкаджалі хадзе. Прышлося падвязваць іх да нагі.

Цікава, што і насок служыў адзнакай знатнасці. Простыя людзі насілі насок даўжынёй у поўфута, багатыя — фут, рыцары — паўтара, бароны — два...

А вось на адным з малюнкаў вы бачыце на кончыку наска нейкі кружочак. Што гэта можа быць? Бубянец!

Бубянец на адзенні і абутку — адзнака знатнасці. Простыя людзі не любілі бубянцоў і склалі прыказку: «Чым большы дурань, тым большы бубянец».

Вострыя і доўгія наскі ўжываліся на працягу 400 год. А ні карысці, ні зручнасці ад іх ніякай.



3. Катурны. Абутак старажытнай Русі.

На змену вострым прышлі тупыя наскі. Але і тут не абылося без дзівацтваў. Пачалі рабіць «каровскія морды», «мядзведжыя лапы», «качыныя насы» і г. д.

Толькі ў XVII веку наскі пачалі рабіць па форме нагі. У такім выглядзе яны ўжываюцца і зараз.

## ЦЯПЕРАШНІ АБУТАК

З надворнага выгляду цяперашні чаравік як быццам шмат у чым падобны да старажытнага.

Аднак гэта толькі так здаецца. Вякамі людзі ўдасканальвалі чаравік, пакуль ён стаў такім, які мы носім цяпер.



4. Абутак з доўгімі і загнутымі наскамі.

Праўда, і цяпер можна сустрэць амаль усе віды абутку, якімі людзі карысталіся раней. Драўляныя сандалі носяць не толькі ў Кітаі, Японіі, Персіі і іншых дзяржавах Азіі, але і ў еўрапейскіх краінах.

А цяперашнія «басаножкі» зусім падобны да старажытных егіпецкіх і асірыйскіх сандаляў.

Старажытныя народы ўпрыгожвалі абутак. Тое-ж самае робяць і цяпер: розныя пражкі і кручкі, каляровыя матэрыялы, узоры, нават люстэрачкі ў абсацах — усё гэта адзнакі і цяперашняга абутку.

Форма і матэрыял абутку залежыць яшчэ і ад прыродных умоў, у якіх жывуць людзі. Народы поўначы шыюць так званыя «пімы» — высокія боты з аленевай скуры, шэрсцю ўверх (так цяплей, чым шэрсцю ўнутр). А народы Каўказа і Крыма носяць лёгкія боты з тонкай авечай скуры. На Поўначы холадна; там водзяцца алені. А на Каўказе і ў Крыму цёпла; самая пашыраная жывёла там — авечкі. Вось чаму паўночныя і паўднёвыя народы носяць розныя боты.

Скура — матэрыял дарагі. Яе нехапае для абутку ўсім людзям. Аднак абуванне патрэбна ўсім. Вось чаму ў наш час пачалі шукаць іншых відаў сыравіны для абутку. Высокая тэхніка нашага веку дае магчымасць замяняць скуру штучнымі таварамі. Так з'явіўся рэзінавы абутак; падэшва робіцца з пластмасы, кажаміту і г. д. Абсацы з дрэва ці пластмасы наогул большноскія за скураныя.

Замяняльнікі скуры цяпер ужываюцца ва ўсіх краінах свету.




І. Кіпніс

Мал. І. Давідовіча

Няўжо непрыемны?

Не для кожнага. Для Боры гэта быў цяжкі, дрэнны, непрыемны дзень.

Дзень пачаўся, як звычайна, з таго, што маці сказала:

— Бора, уставай, зноў спознішся ў школу.

— Яшчэ паспею,—адказаў Бора.

Калі маці сказала: „зноў спознішся“,—значыць такі выпадак ужо быў... І сапраўды, Бора не адзін раз пазніўся. Неяк настаўніца яму сказала:

— Броннікаў, апошні раз пускаю цябе на другі ўрок. Калі ты зноў спознішся, адпраўлю дадому.

— У нас самавар ніяк не распальваўся,—тут-жа прыдумаў Бора прычыну і адразу пачырванеў.

Але Юлія Іванаўна не любіць адгаворак ды яшчэ такіх недарэчных, як Борыны.

— Учора,—кажа Юлія Іванаўна,—у цябе мышы сцягнулі шнуркі ад чаравікаў, сёння—не распальваўся самавар, а заўтра ты зусім не прыдзеш у школу...

У класе ніхто не спачуваў Бору.

Маці даведалася аб гэтым неяк выпадкова.

— Борык,—сказала маці,—падумай толькі: я ад сораму ледзь не згарэла, калі пачула такое аб сваім сыне.

Бора зірнуў на маці і падумаў, што яна кажа няпраўду: калі яна і сапраўды ад сораму гарэла, дык чаму плацце на ёй цэлае?

І ў гэтую раніцу ён збіраўся так доўга, што зноў прышоў у школу пасля першага ўрока.

Дзеці з вясёлым шумам выбягалі ўжо з класаў. Бора, чырванеючы ад сораму, накіраваўся ў раздзявалку. Адтуль ён непрыкметна прабраўся ў клас і думаў там адсядзецца да пачатку другога ўрока.

— Броннікаў, выходзь з класа, ды хутчэй!—крыкнуў Пакрас,—ён быў сёння дзяжурным.

— Чаму?

— А таму... Час ведаць, што класы на перапынках трэба праветрываць.

Нічога не зробіш: калі трэба выйсці—выходзіш...

На карыдоры Бора тварам к твару

сустрэўся з Лёвам Ступніцкім. Лёва зрабіў Бору такую сустрэчу:

— А-а-а!—сказаў ён.—Броннікаў ужо тут. Прывітанне табе, Броннікаў, ад тваіх мышэй!

— Ад якіх мышэй?—падбег Фіма Казадой, вучань другога класа „Б".

— Ад якіх? Няўжо ты не ведаеш, што ўчора ён казаў настаўніцы, нібы мышы сцягнулі ў яго правы чаравік і левую панчоху. Таму Броннікаў спазніўся ў школу.

— Што ты кажаш?

— Сур'ёзна, я іх сёння бачыў, Боркавых мышэй.

— Гэта ты жартуеш?

— Хто жартуе? Калі я кажу табе, што бачыў, значыць, бачыў. Нёма, Нёма, ідзі сюды. Праўда, мы іх сустрэлі?

— Каго?

— Яго мышэй.

— Так, так,—весела падтрымаў Нёма.—Усе бачылі, як два каты з аголенымі шаблямі вялі іх па вуліцы. Увесь горад збегся.

Бора густа пачырванеў. А тут, як на ліха, з настаўніцкай выйшла Юлія Іванаўна.

— О-о-о!—сказала яна.—Броннікаў, нарэшце, прышоў. Ну, што сёння здарылася?

— Мама раніцой замкнула мяне ў кватэры,—сказаў Бора.—Потым яна пайшла на рынак, а пакуль не вярнулася, я...



— Ну, хопіць,—сказала Юлія Іванаўна.—Забірай кніжкі і ідзі дадому. А заўтра няхай бацька альбо маці твае прыдуць.

Бора не ведаў, што рабіць: ісці ў клас па кніжкі было сорамна, а вяртацца дадому без кніжак—нельга. І ён рашыў, што пачакае на двары, пакуль не скончацца заняткі.

А на двары ішоў дождж і было холадна.

Куды пайсці?

Ён перабег вуліцу і ўвайшоў у магазін. Пасля зноў вышаў на вуліцу—стаіць і аб адным думае: каб не сустрэць знаёмых.

Падышла вартаўніца. Хлопчык топчацца ля дзвярэй магазіна. Чаго ён тут? Усе дзеці цяпер у школе, сядзяць за партамі, вучацца, а гэта напэўна злодзей які-небудзь... І яна прагнала яго. Але ледзь ён ступіў крок, як убачыў маці.

Маці аднекуль ішла і адразу заўважыла яго.

Яна і думаць не думала, што сустрэне тут свайго Бору.

— Што такое? Што здарылася, Боранька?—кінулася яна да яго.

— Хадзем, хадзем, сынок, хутчэй у школу!

„Яшчэ паспею",—хацеў па прывычцы адказаць Бора, але нічога не мог вымавіць, бо ў вачах ужо стаялі слёзы.

У школе маці дачакалася Юліі Іванаўны, і яны доўга размаўлялі. А Бора стаяў ля іх і чырванеў.

Пасля гэтага ён заўсёды падымаўся вельмі рана, ледзь не на досвітку.

— Паспі яшчэ!—казала маці.—Куды спяшаешся?

Бора адказваў:

— Мамка, рыхтуй снеданне, каб я не спазніўся.

Як бачыце, дзень быў непрыемны, але-ж вынік атрымаўся вельмі добры.

# Яны будуць музыкантамі

З захапленнем праходзіш па карыдоры Мінскай музычнай школы. Ад раніцы да позняга вечара з розных пакояў чуваць тут чароўныя гукі Баха, Моцарта, Чайкоўскага, Рахманінава... Не адразу зразумееш, што гэтыя выдатныя творы сусветных кампазітараў выконваюць дзеці ад 6 да 15 год — юныя баяністы, скрыпачы і піяністы.

Многія з іх пачыналі авалодваць складаным майстэрствам ігры яшчэ да вайны. Але вайна спыніла заняткі.

Ненавісныя нямецкія захопнікі прынеслі вялікую шкоду музычнай школе. За тры гады свайго гаспадарання яны абрабавалі ўсё абсталяванне школы, спалілі ўсю музычную літаратуру, напалову разбурылі памяшканне. Чырвоная Армія вярнула вучням музычнай школы дні шчаслівай вучобы. Цяпер у школе займаецца больш 300 дзяцей. Клапатлівыя педагогі кансерваторыі—дацэнт Шаршэўскі, праф. Бергер, праф. Амітон і праф. Бяссмертны вучаць іх музыцы.

У кожнага з рэбят ужо ёсць свой любімы кампазітар. Васьмігадовая вучаніца 28 сярэдняй школы Люда Арсенка добра выконвае на раялі п'есы Моцарта, трынаццацігадовая Поля Ратнер—творы Чайкоўскага і Бетховена. Самая маленькая ў школе шасцігадовая Ларыса Талкачова ўжо выдатна іграе паланез Баха.

Добра валодаюць майстэрствам ігры на скрыпцы Валя Жыў і Анры Ямпольскі.

— Вынікі заняткаў у школе за першае паўгоддзе паказалі высокую якасць вучобы,—гаворыць дырэктар музычнай школы і з пачуццём бацькоўскай радасці і гонару за сваіх выхаванцаў дадае: — Многія з іх будуць выдатнымі музыкантамі!



*Люда Арсенка.*



*Анры Ямпольскі.*



*Поля Ратнер.*



# Шахматы

*Аддзел вядзе С. ТУРЧЫНОВІЧ*

## ШАХМАТНАЯ ДОШКА

Выражцe з картона квадрат і падзяліце яго на 64 роўных клеткі. Афарбуйце іх у белы і чорны колер, пастаўце лічбы і літары так, як гэта зроблена на малюнку, і шахматная дошка гатова. Як бачыце, клеткі ўтвараюць тры напрамкі: тарызантальны (злева направа), вертыкальны (зверху ўніз) і касы (дыяганалі).

Лічбы і літары ставяцца на шахматнай дошцы для таго, каб мець магчымасць запісаць кожнае поле (клетку). Вось, напрыклад, левае вуглавое поле (клетка) (гл. мал.) знаходзіцца на вертыкалі «а» і на гарызанталі 1. Таму яно абазначаецца так: «а1». Правая-ж вуглавая клетка стаіць на вертыкалі h і на гарызанталі 1(h1).




Паспрабуйце знайсці на шахматнай дошцы клеткі: d4, c7, e8.

Навучыўшыся хутка знаходзіць і запісваць кожную клетку, вы гэтым самым навучыцеся і запісваць кожны ход, бо фігуры, як вядома, стаяць на клетках шахматнай дошкі.

## ФІГУРЫ

У шахматы, звычайна, іграюць двое. У кожнага з праціўнікаў налічваецца 16 фігур белых або чорных: кароль (скарочна пішацца Кр.) ферзь (Ф), 2 ладдзі (Л), 2 сланы (С), 2 кані (К) і 8 пешак. На дыяграмах яны маюць наступны выгляд (гл. малюнак).

Намалюйце гэтыя фігуры на картонках і выражце іх.

У пачатку ігры фігуры ставяцца так, як гэта паказана на малюнку. Пры гэтым трэба памятаць, што ферзь заўсёды ставіцца на поле свайго колеру. Гэта значыць: белая — на d1, чорная — на d8. Вертыкалі з боку ферзя a, b і c ствараюць ферзевы фланг, вертыкалі f, g i h— каралеўскі фланг, а вертыкалі d і e называюцца цэнтральнымі.




## ХАДЫ ФІГУР

Цяпер, калі ў нас гатовы дошка і фігуры, мы можам пачынаць ігру.

Пачынаюць заўсёды белыя, інакш кажучы, яны робяць першы ход.

Як-жа ходзяць фігуры?

**Кароль** ходзіць ва ўсіх напрамках, але толькі на адно суседняе поле. Напрыклад, кароль стаіць на c4 (гл. мал.). З гэтага поля ён можа




зрабіць 8 ходаў. Ход—кароль з c4 ідзе на d3—запісваецца так: Крс4—d3.

**Ферзь** ходзіць таксама ва ўсіх напрамках і, пры гэтым, на любую адлегласць, як паказана на малюнку.

Так, калі ферзь будзе стаяць на полі c6, яна можа зрабіць 25 любых ходаў.

**Слон** ходзіць на любую адлегласць ,але толькі па дыяганалях (гл. мал.). Адгэтуль вынікае, што




ён ніколі не можа пераскочыць з чорнага поля на белае і наадварот, што можа зрабіць любая другая фігура.

**Ладдзя** можа хадзіць на любую адлегласць, але толькі па гарызанталях і вертыкалях.

Падлічыце, колькі ходаў яна можа зрабіць з поля d4.




**Конь** ходзіць праз дзве клеткі на трэцюю — літарай «г» (гл. мал.). На нашым мал. конь стаіць на d4. З гэтага месца ён можа зрабіць 8 ходаў на палі b5, c6, e6, f5, f3, e2, c2, b3.

Як бачыце, калі конь стаіць на чорным полі, то ён можа пайсці толькі на белае поле.




**Пешка** ходзіць па вертыкалі і толькі ўперад на адно поле. Аднак, выключэннем з'яўляецца пачатковая пазіцыя, з якой яна мае права хадзіць адразу на два палі. Напрыклад, пешка стаіць на b2. Яна можа пайсці на b3 і можа пайсці на b4 і далей ужо прасоўваецца ўперад толькі на адно поле.




Ход пешкі запісваецца так: a2—a3, c7—c5. Пешка, дасягнуўшая апошняй гарызанталі, можа адразу быць заменена любой фігурай, апрача караля.

---

### ЗМЕСТ




На вокладцы: паездка В. І. Леніна ў Кашына (з малюнка А. Давыдавай)

Укладкі: Владзімір Ільіч Ленін. Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом друку.

Адказны рэдактар **А. Якімовіч**.

АТ 02011. Здадзена ў набор 27/XII—45 г. Падпісана да друку 8/II 1946 г. Друк. арк. 2.

Друкарня імя Сталіна, вул. Пушкіна, 55. Тыраж 10 000 экз. Заказ 2.

# ГЕАГРАФІЧНЫЯ РЭБУСЫ




## КРАСВОРД

Пачынаючы з кожнай лічбы па вертыкалі або гарызанталі трэба запоўніць белыя клеткі словамі наступных значэнняў:

### ПА ВЕРТЫКАЛІ (ЗВЕРХУ УНІЗ):

1.Жылы будынак. 2. Кветка. 3. Рабочы ткацкай фабрыкі. 5. Тоўстая папера. 6. Пастанова Вярхоўнага Совета. 9. Асадак на дне ракі. 11. Рака ў Заходняй Еўропе. 13. Перакладзіна над варотамі. 15. Калючая расліна. 18. Вельмі дужы чалавек. 19. Рыба. 20. Жаночае імя. 23. Рашаючы момант боя. 25. Тое, аб чым гаворыцца у мастацкім творы. 26. Лясны звер. 27. Марскі рак. 29. Насякомае.

### ПА ГАРЫЗАНТАЛІ (ЗЛЕВА НАПРАВА):

2. Частка твара. 4. Вучнёўская прыналежнасць. 7. Галаўны ўбор. 8. Частка грывы каня. 10. Від верша. 12. Від тэатральнага мастацтва. 14. Прыназоўнік. 16. Сухая трава. 17. Частка самавара. 19 Воклiч вартавога. 21. Марская рыба. 22. Імя дзяўчынкі. 24. Маленькі стол. 28. Назва літары. 30. Адгалосак. 31. Частка супроцьгаза. 32. Сельскагаспадарчая прылада. 33. Няшчасце.



### АДКАЗЫ НА ГАЛАВАЛОМКІ, ЗМЕШЧАНЫЯ

У № 6—7 за 1945 г.

1 .На малюнках: нажніцы, абцугі, брытва, відэлец, гадзіннік, лыжка.

2. Нарысуйце новы квадрат такім чынам, каб першы апынуўся ў сярэдзіне. Бакі ўдвая большага квадрата пройдуць між дрэвамі і вугламі малога квадрата.

3. Адну дошку пакласці на вугал квадрата, а другую — на сярэдзіну першай і на вугал вострава.

4. Вядзіце лінію з ніжняга правага нуля на верхні левы; працягвайце ўправа, пасля, пад кутом, уніз закрэсліць два астатнія нулі па дыяганалі, чацвертая лінія пройдзе праз нулі з левага боку.

5. Перавярніце малюнак і ўбачыце зверху ў галлі між дрэў хлопчыка.

Цана 2 руб. 50 кап.

# ЦУДОЎНАЯ БАБА

*С. Разак*

*Мал. А. Волкава*



Падымае Мішка морду —
На сасне калода мёду...
Нельга вулей абмінаць,
Трэба мёду паспытаць.



Лезе Мішка наш да мёду,
Ды здараецца прыгода:
Раптам трэснуў тонкі сук...
Паляцеў далоў Мішук.



Завярцеўся, як круцёлка,
Пакаціўся, як кацёлка.
Не да мёду ласуну:
Будзе помніць ён сасну.



Каля вёскі на пацеху
Лепяць дзеці бабу з снегу.
Бачаць: к ім з гары кулём
Прыкаціўся снежны ком.



Дзецям радасці нямала:
Проста ім пашанцавала!
Галаву ставяць, і ўміг
Тут гатова баба ў іх.



Што за дзіва? Што за цуда?
Рассыпаецца ўся груда...
Раптам баба ажыла,
Па сялу гуляць пайшла!